ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 14 (2364) 7 красавіка 1994 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 100 рублёў.

## КАНСТЫТУЦЫЯ ПАДПІСАНА



**Мячэслаў ГРЫБ, Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, у прысутнасці кіраўніка ўрада В.КЕБІЧА, членаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета, Савета Міністраў, народных дэпутатаў паставіў свой подпіс пад Асноўным Законам дзяржавы -- Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь. Адбылася ўрачыстая цырымонія 28 сакавіка 1994 года. Ад гэтага часу народ наш мае жыць па-новаму. Ці будзе!..**

# ЖЫЦЬ СВАІМ РОЗУМАМ

**ГУТАРКА КАРЭСПАНДЭНТА "ГОЛАСУ РАДЗІМЫ" Веранікі ЧАРКАСАВАЙ З ЧАСОВЫМ ПАВЕРАНЫМ У СПРАВАХ ЗЛУЧАНЫХ ШТАТАЎ АМЕРЫКІ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ Джорджам Альбертам КРОЛЕМ**

*Яшчэ год таму трапіць на тэрыторыю амерыканскага пасольства ў Мінску было даволі проста. Кароткая размова з не вельмі ветлівымі, але дужымі маладымі хлопцамі, што грэліся ў невялікай драўлянай будцы ля ўваходу, -- і шлях адкрыты. За апошнія паўгода тут змянілася многае. З'явіліся вароты, а таксама своеасаблівы кантрольна-прапускны пункт, які вельмі нагадвае невялікую мытню. Бездакорна ветлівыя служачыя, якія без затрымак вырашаюць усе пытанні наведвальнікаў, падтрымліваюць парадак і, калі гэта неабходна, імгненна звязваюцца са служачымі пасольства. Потым, як на сапраўднай мытні, прапаноўваюць прайсці праз металашукальнік, замест візы выдаюць картку часовага наведвальніка пасольства. І вось без доўгіх збораў, афармлення дакументаў і шматгадзіннай дарогі, не пакідаючы роднай Беларусі, вы апынаецеся ў Амерыцы, бо тэрыторыя пасольства належыць краіне, якую яно прадстаўляе. Так што хай за сцяной шуміць Старавіленская, і тое ж скупое беларускае сонейка свеціць, ды вы ўжо ў Амерыцы. Але ж змены адбыліся не толькі ў знешнім выглядзе пасольства. Як вядома, нядаўна былы амерыканскі пасол Д. Суорц у сувязі з выхадам на пенсію пакінуў Беларусь і ад'ехаў на радзіму. З новым гаспадаром дома на Старавіленскай, 43, Джорджам Альбертам Кролем мы пазнаёміліся на прэзентацыі кнігі Лідзіі Савік "Вяртанне" аб жыцці Барыса Кіта. У той вечар вялікі беларус, які стаў грамадзянінам Амерыкі, нябачна аб'яднаў нашы народы, і ў нейкі момант не такое далёкае мінулае з "халоднай вайной" і вобразамі ворагаў падалося амаль што неверагодным. Біл Клінтан у Курапатах, куточак Амерыкі ў цэнтры Мінска, сумеснае ўшанаванне вялікага вучонага, які па праву (і па яго ўласных словах) належыць дзвюм краінам і дзвюм культурам... Мне падалося, што ўсё гэта і ёсць менавіта тыя незваротныя змены ў адносінах паміж нашымі краінамі, якія самі па сабе ўжо з'яўляюцца гарантыяй таго, што мінулае з бессэнсоўнай і неканструктыўнай варожасцю ніколі не вернецца зноў. Тады ж, на прэзентацыі, пан Кроль згадзіўся даць інтэрв'ю нашай газеце. Сустрэча з часовым паверанным адбылася пазней. Гутарку з ім прапаноўваем чытачам "Голасу Радзімы".*

**-- Спадар Кроль, вы добра гаворыце па-руску. Дзе вы працавалі да свайго прызначэння на Беларусь!**

-- У дзяржаўным дэпартаменце ЗША я займаўся пытаннямі Усходняй Еўропы, вучыў рускую мову. Першае маё прызначэнне было ў Польшчу ў 1987--1988 гадах. Гэта быў вельмі цікавы час. Давялося працаваць у Санкт-Пецярбургу і на Украіне. Зараз -- Беларусь...

**-- Вы былі ў Польшчы, калі гэтая краіна перажывала вельмі складаны перыяд, надзвычайныя падзеі адбываюцца ў апошнія гады ў былым СССР і ў нас, на Беларусі. Ці заўсёды ўдаецца дыпламату халодным поглядам староннягa назіральніка сачыць за тым, што робіцца ў краіне знаходжання!**

-- Ведаеце, дыпламаты -- таксама людзі, у нас таксама ёсць чалавечыя пачуцці і эмоцыі. Вельмі часта даводзіцца і хваляваца, і перажываць, але заўсёды трэба памятаць пра свае прафесійныя абавязкі. Таму дыпламат на ўсе падзеі павінен глядзець спакойна і цвяроза, бо толькі так можна правільна ацаніць і спрагназаваць сітуацыю. Што б ні адбывалася ў краіне, дзе ты знаходзішся, дыпламат у першую чаргу павінен памятаць аб інтарэсах сваёй краіны. Так што ўласныя пачуцці і эмоцыі, канешне, ёсць, але даводзіцца адсоўваць іх на другі план.

**-- Вы прымаеце ўдзел у рабоце камісіі па гуманітарнай дапамозе. Ці памятаюць яшчэ ў Амерыцы пра Чарнобыль! І ўвогуле, што там ведаюць пра Беларусь!**

-- Я думаю, што вы закранулі важнае пытанне. Мне вельмі шкада, але амерыканцы мала ведаюць аб чарнобыльскай трагедыі, аб тым, як пацярпела ад яе ваша рэспубліка.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## ПАГАВОРЫМ ПА ШЧЫРАСЦІ

# ЦІ ПЕРАЖЫВЕ КІНЕМАТОГРАФ 2000-ны ГОД?

**Ефрасіння Бондарава -- вядомы беларускі кіназнаўца, доктар філалагічных навук, выкладчык факультэта журналістыкі БДУ, аўтар дзесяці кніг. "Кінематограф і літаратура: творы беларускіх пісьменнікаў на экране" -- апошняя в іх. Яна выйшла ў свет у канцы мінулага года. Прапануем інтэрв'ю нашага карэспандэнта з Ефрасінняй БОНДАРАВАЙ.**

**-- Ефрасіння Леанідаўна, ваша кніга расказвае пра экранізацыі. Калі я яе прачытала, то мне здалося, што большасць значных беларускіх фільмаў -- экранізацыі рускай, беларускай літаратуры.**

-- Сапраўды, усё самае лепшае ў беларускім кіно ўзнікла на аснове літаратуры. Калі бярэцца для экранізацыі значны літаратурны твор, то які б рэжысёр ні быў, у фільме нешта застанецца ад першаасновы. Пачынаючы з фільма Юрыя Тарыча "Лясная быль" (1926 год), які грунтаваўся на аповесці Міхася Чарота, беларускае кіно прарывалася за сярэдні ўзровень найперш у фільмах, асновай для якіх была літаратура, як класіка, так і сучасныя творы. "Бацькі і дзеці" -- вядомая экранізацыя Вячаславам Нікіфаравым твора І. Тургенева, якую хвалілі і спецыялісты, і аматары кіно. У фільме адбылося адкрыццё галоўнага героя рамана Базарава. Я лічу, што фільмы рэжысёра В. Турава "Людзі на балоце", "Подых навальніцы" -- грунтоўнае асэнсаванне выдатных твораў Івана Мележа. Можна паставіцца да стужак крытычна: у іх не вытрымана норма аўтарскай мовы, у фільмах больш светлы і лірычны фон, чым у Мележа. Але фільмы гэтыя -- адкрыццё чалавечых характараў Васіля і Ганны, якія стварылі А. Барзова і нябожчык Ю. Казючыц.

**-- Фільмаграфія экранізацый твораў беларускай літаратуры з 1926 па 1992 гады, якая прыведзена ў кнізе, складзена вамі!**

-- Так. На жаль, поўнага фільмаграфічнага даведніка на Беларусі няма наогул. Але ж фільмаграфія ігравых і часткі дакументальных стужак была створана пры напісанні "Гісторыі беларускага кіно", якая выйшла двухтомнікам у канцы 60-х гадоў. З таго часу фільмаграфіяй ніхто не займаўся. Калі я пачала складаць яе, то спачатку карысталася звесткамі, што меліся ў "Гісторыі беларускага кіно", а пра фільмы, якія з'явіліся пасля 1967 года, збірала інфармацыю сама. З 1990 года ўсё рассыпалася ў сістэме кінавытворчасці, і невядома, хто дзе што здымае. Раней быў улік кінапрадукцыі. Цяпер жа ніхто дакладна не ведае, колькі і якія стужкі ствараюцца, дзе іх паказваюць.

**(Заканчэнне на 6-7-й стар.).**

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ДАЙЦЕ НАМ ПРЭЗІДЭНТА*

### ВЫБАРЫ АДБУДУЦЦА 23-га ЧЭРВЕНЯ

**Канстытуцыя, якую мы ўжо маем, абвяшчае Беларусь прэзідэнцкай рэспублікай. Але Канстытуцыя ёсць, а прэзідэнта няма. Таму, не зважаючы на веснавую паводку, набліжэнне сяўбы і адсутнасць рублёвай зоны, дэпутаты, адсунуўшы ўбок усе іншыя праблемы, заняліся ў першую чаргу выбарамі. На сесіі Вярхоўнага Савета вырашылі прызначыць выбары прэзідэнта на 23 чэрвеня. Гэты дзень аб'яўлены нерабочым.**

**З такой нагоды спікер парламента М. Грыб урачыста абвясціў: "Шлях у прэзідэнты адкрыты для ўсіх прэтэндэнтаў".**

**Прэзідэнцкі марафон пачнецца ўжо 18 красавіка.**

**Апазіцыя БНФ у Вярхоўным Савеце афіцыйна заявіла аб намеры вылучыць Зянона Пазьняка кандыдатам у прэзідэнты Беларусі.**

*"Асабіста я, магчыма, і падтрымаў бы рашэнне аб аб"яднанні грашовых сістэм, каб нам сказалі, што яно часовае. У рэшце рэшт Кутузаў Маскву здаў, каб выйграць усю вайну. Яго спачатку таксама не разумелі. Але ў нас усё не так. Мы толькі просімся: "Вось мы такія бедныя, вазьміце нас да сябе!" Мы губляем свой гонар. Ніхто не будзе з намі годна размаўляць. З халуямі размаўляюць адпаведным чынам".*

*Уладзімір ГРЫБАНАЎ, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь.*

*ВАКОЛ РУБЛЁВАЙ ЗОНЫ*

### ПАЧНЕМ УСЁ НАНАВА

**На прэс-канферэнцыі, прысвечанай вынікам Другой канферэнцыі Міжпарламенцкага саюза, што адбылася ў Парыжы і ў якой прымаў удзел Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М. Грыб, спікер выказаў думку наконт грашовага альянса. Найперш неабходна вызначыцца ў галоўным: што канкрэтна трэба рабіць цяпер. Паколькі, зразумела, сёння-заўтра адзіных грошай не будзе, таму, лічыць Мячэслаў Грыб, гэтае пытанне цяпер не трэба падкрэсліваць. Калі аб'яднанне грашовых сістэм не атрымліваецца, то прыводзіць дагавор у дзеянне можна па частках, па пазіцыях, па якіх ужо дасягнута дагаворанасць бакоў. Напрыклад, па зняццю мытных збораў і падаткаў. Мячэслаў Грыб выказаў занепакоенасць наконт узнікшай сітуацыі, таму што ў чаканні маючага адбыцца аб'яднання бяздзейнічаюць прадпрыемствы, паралізаваны гандаль. "Далейшае зацягванне гэтага пытання не ідзе на карысць ні нам, ні Расіі. Калі не атрымліваецца, значыць, трэба распрацоўваць новы змест двухбаковага пагаднення, шырокамаштабнага дагавора паміж дзвюма дзяржавамі", -- заявіў Мячэслаў Грыб. Ён адзначыў, што Прэзідыум Вярхоўнага Савета гэтае пытанне ўжо вырашыў: пад кіраўніцтвам першага намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета Вячаслава Кузняцова створана камісія, якая будзе напрацоўваць новае пагадненне.**

*А ШТО Ў НАС?*

### СВЯТА БНР У ВІЛЬНІ

**У Вільні прайшлі ўрачыстасці, прысвечаныя 76-й гадавіне абвяшчэння незалежнасці Беларусі.**

**Раніцай прэзідэнт Літоўскай Рэспублікі А.Бразаўскас уручыў памятныя медалі тым прадстаўнікам беларускай грамадскасці, якія 13 студзеня 1991 года ўдзельнічалі ў абароне літоўскай незалежнасці.**

**Затым на сцяне Дамініканскага кляштара была ўрачыста адкрыта і асвячона мемарыяльная дошка Кастусю Каліноўскаму, які 130 гадоў таму адбываў у гэтым будынку ў зняволенні апошнія дні перад павешаннем.**

**Увечары ў Белай зале работнікаў мастацтва, упрыгожанай літоўскімі і беларускімі дзяржаўнымі сцягамі, адбылося ўрачыстае пасяджэнне, якое закончылася канцэртам мінскага ансамбля "Харошкі".**

*ТЫДЗЕНЬ ДЗІЦЯЧАЙ КНІГІ*

**Адкрыццё Тыдня дзіцячай кнігі адбылося ў Доме літаратара ў Мінску.**

**На свята, якому сёлета спаўняецца 50 гадоў, сабраліся школьнікі з усіх раёнаў горада. Гасцямі дзятвы былі малайдыя літаратары Іван Ждановіч і Міхась Скобла, першы намеснік старшыні гарадскога таварыства кнігалюбаў Уладзімір Лапцёнак, паэт-бард Ганна Бутырчык і іншыя. Гучалі вершы, песні, праводзілася літаратурная віктарына, пераможцы якой атрымалі прызы. Асаблівую цікавасць выклікала выстаўка работ юных мастакоў. Малюнкі дзяцей паказалі, што яны ведаюць творы беларускіх пісьменнікаў.**



**НА ЗДЫМКУ: на адкрыцці Тыдня дзіцячай кнігі.**

*СУПРАЦЬ АДРАДЖЭННЯ*

### ІДЭАЛАГІЧНАЯ ЭКСПЕРТЫЗА ГІСТОРЫІ

**Спробай выкарыстаць школы ў палітычных мэтах нацыяналістычнымі сіламі, "свядома культывуючымі русафобію для параджэння міжнацыянальнай варожасці", названы ў накіраваных Мінскім гарадскім Саветам ДСПС міністру адукацыі і Прэзідыуму Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь пісьмах выпушчаныя ў апошні час у рэспубліцы падручнікі гісторыі для навучальных устаноў.**

**У сувязі з гэтым Савет ДСПС выступае з прапановай выключыць з навучальнага працэсу падручнікі, "што ўтрымліваюць насілле над гістарычнай праўдай, выклікаюць варожасць паміж людзьмі розных нацыянальнасцей", а таксама надалей зацвярджаць падручнікі па ідэалагічных дысцыплінах толькі пасля іх навуковай і грамадскай экспертызы з удзелам прадстаўнікоў грамадскіх аб'яднанняў усяго палітычнага спектра рэспублікі.**

*АКЛАДЫ ПАСЛОЎ*

### КАМУ КОЛЬКІ

**Савет Міністраў Беларусі зацвердзіў службовыя аклады паслоў Рэспублікі Беларусь. Так, цяпер пасол у ЗША будзе атрымліваць 1 600 долараў ЗША ў месяц, столькі ж -- беларускі пасол у Ізраілі. Далей ідуць: пасол Рэспублікі Беларусь у Італіі -- 1 320 долараў ЗША, у Польшчы -- 1 200, у Кітаі -- 1 040, у Балгарыі -- 1 000, у Эстоніі і Латвіі -- па 800, у Літве -- 750, у Румыніі -- 700, на Украіне -- 400. Аклад беларускага пасла ў Германіі складае 3 100 марак ФРГ, у Аб'яднаным Каралеўстве Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі -- 865 англійскіх фунтаў, у Францыі -- 9 500 французскіх франкаў, у Аўстрыі -- 21 900 аўстрыйскіх шылінгаў, у Бельгіі -- 49 300 бельгійскіх франкаў, у Нідэрландах -- 2 896 гульдэнаў, у Швейцарыі -- 2 600 швейцарскіх франкаў.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

НАЦЫЯНАЛЬНЫ даход Беларусі за два месяцы 1994 года панізіўся на 33 працэнты ў параўнанні з адпаведным перыядам года мінулага. Аб'ём прамысловай вытворчасці ўпаў на 36,5 працэнта.

КОНСУЛЬСТВА Латвійскай Рэспублікі адкрылася ў Віцебску. Яго ўзначаліў Арнольд Краўзе, які ўжо дзесяць год жыве ў Віцебску. Да прызначэння на дыпламатычную пасаду працаваў на радыётэхнічным заводзе.

Месяцам раней у горадзе Даўгаўпілсе адкрылася консульства Рэспублікі Беларусь у Латвіі.

ЖЫХАРЫ памежных раёнаў Літвы і Беларусі будуць пераходзіць граніцу, маючы толькі пропуск, які будзе выдавацца адпаведнымі службамі аховы граніцы Літвы і Беларусі. Гэта прадугледжвае двухбаковае пагадненне, якое павінна быць падпісана ў найбліжэйшым часе.

ГАРВЫКАНКОМ Брэста забараніў маніфестацыю, якая мелася адбыцца тут з нагоды 76-й гадавіны абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Аднак не зважаючы на цвёрды марксісцкі курс "айцоў" горада, некалькі дзесяткаў чалавек адзначылі Акт 25 Сакавіка пад нацыянальнымі сцягамі на пляцы перад кінатэатрам "Беларусь".

ДА І ГОДА І 6 МЕСЯЦАЎ пазбаўлення волі прыгавораны Альберт Міхайлаў, пракурор следчага ўпраўлення пракуратуры Мінскай вобласці. Суд прызнаў яго вінаватым у неаднаразовым атрыманні хабару, у крадзяжы агнястрэльнай зброі.

*ФЕРМЕРСТВА*

### ВЫЖЫВАЦЬ РАЗАМ

**У Калінкавіцкім раёне створана асацыяцыя фермераў, у якую ўвайшлі больш трыццаці адзінаасобных гаспадарак. А ўсяго да сёлетняй пасяўной на Гомельшчыне рыхтуюцца больш 360 фермерскіх прадпрыемстваў, за імі замацавана звыш сямі тысяч гектараў зямлі.**

*ДАКУМЕНТ*

## ЗВАРОТ ДА ГРАМАДЗЯН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

З прыняццем Канстытуцыі незалежнай Рэспублікі Беларусь, дзе засведчана пераемнасць шматвяковай гісторыі развіцця беларускай дзяржаўнасці і абвешчана адзінай дзяржаўнай беларуская мова, становіцца відавочным, што нацыянальна-дзяржаўнае адраджэнне мае падставы стаць незваротным.

Эканамічны, сацыяльна-палітычны і грамадска-культурны крызіс, які перажывае Беларусь, істотна перашкаджае поступу рэформаў у моўна-культурным жыцці краіны. Менавіта адсутнасць сапраўды незалежнай нацыянальнай дзяржавы на працягу мінулых стагоддзяў, заняпад беларускай культуры і мовы прывёў да мяжы разбурэння грамадзянскую супольнасць на Бацькаўшчыне і стаў адной з галоўных прычын гэтага крызісу.

Самаахвярныя высілкі грамадскасці, і ў значнай ступені нацыянальна-свядомай інтэлігенцыі, скіраваныя на развіццё і ўдасканаленне шматвяковых традыцый будаўніцтва беларускага нацыянальна-дзяржаўнага дому, дасягнулі значнага поспеху. Пачатковая школа, сістэма дашкольнага і пазашкольнага выхавання ўпершыню на працягу жыцця апошніх пакаленняў набываюць нацыянальную адметнасць. Колькасны склад гэтых беларускамоўных устаноў пачынае адпавядаць прапорцыі этнічнабеларускага насельніцтва краіны. Няўхільна расце колькасць дзяржаўных устаноў і грамадскіх арганізацый Беларусі, якія ставяць за мэту і вырашаюць задачы нацыянальнага адраджэння ў галіне культутры. Значна ўзраслі тыражы, палепшылася структура і адраснасць беларускага перыядычнага друкаванага слова, упершыню ў гісторыі пасляваеннай Беларусі ствараецца творча-вытворчая база для выпуску нацыянальных падручнікаў і дапаможнікаў, слоўнікаў і даведкавай літаратуры для навучальных устаноў усіх тыпаў. Адраджаюцца нацыянальныя грамадазнаўчыя навукі. Больш і больш пачынаюць шанавацца нацыянальныя святыні, гістарычная сімволіка, аднаўляецца гістарычная памяць народа Беларусі.

У той жа час гісторыя вучыць, што нацыянальнае адраджэнне Беларусі на працягу апошніх стагоддзяў, паспяхова пачынаючыся і набываючы значны грамадскі рэзананс, неаднойчы захлыналася і перапынялася цемрашальскімі сіламі, насіллем і крывёй. Грамадзянам Беларусі ўсіх нацыянальнасцяў, веравызнанняў і палітычных перакананняў неабходна памятаць, што дабрабыт Беларусі -- гэта дабрабыт усіх яе сыноў і дачок, адраджэнне беларускай мовы і развіццё беларускай нацыянальнай культуры -- гэта перадумова вольнага, гарманічнага развіцця моў і культур нацыянальных меншасцяў краіны, што ўмацаванне незалежнай Беларускай дзяржавы -- гэта гарантыя выхаду Бацькаўшчыны з глыбокага крызісу, гарантыя сфармавання грамадзянскай супольнасці Беларусі, гарантыя згоды і міру ў краіне. Іншага шляху Беларусі, як і ўсім краінам цывілізаванага свету, не дадзена. Іншы шлях вядзе ў грамадска-палітычны і сацыяльны тупік, да грамадзянскай нестабільнасці і нават горшага, чаго нельга пажадаць ніводнаму з народаў.

Напярэдадні ўсенародных выбараў першага Прэзідэнта незалежнай Беларусі, выбараў новага складу Вярхоўнага Савета і органаў мясцовай улады няхай кожны грамадзянін Беларусі глыбока разважыць, у якой краіне ён хацеў бы жыць. Трэба памятаць, што толькі тыя кандыдаты, якія на справе падтрымліваюць ідэі развіцця незалежнай Беларусі, ідэі нацыянальна-культурнага адраджэння, якія прызнаюць неад'емнае права народа Беларусі мець у сваім дадзеным Богам дзяржаўным доме на куце беларускую мову ў якасці дзяржаўнай, якія не ганьбяць нацыянальную сімволіку і гістарычныя каштоўнасці слаўнае мінуўшчыны Бацькаўшчыны, могуць выражаць сапраўдную гістарычную волю народа Беларусі. Толькі такія людзі могуць сцвердзіць гістарычную адметнасць культурнага шляху Бацькаўшчыны, у якой заўсёды вольна развіваліся б і нацыянальныя меншасці краіны.

Заклікаем грамадзян Беларусі праявіць мудрасць і грамадзянскую сталасць, здаровы прагматызм, гатоўнасць да грамадзянскага прымірэння і нацыянальнай згоды дзеля дабра нашай адзінай Бацькаўшчыны і прыслухацца да слоў гэтага Звароту.

**РЭСПУБЛІКАНСКАЯ РАДА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ Францішка СКАРЫНЫ.**

*11 сакавіка 1994 года.*

г. Менск.

ПАЛЕМІКА

# НЕ ТАНКАМІ, ДЫК РУБЛЁМ...

Дзіўная рэч усё-такі наша гісторыя. Некалі герой славутага Вальтэра Панглос лічыў, што ўсё ідзе да лепшага ў гэтым найлепшым свеце. А зараз міжволі хочацца сказаць, што, наадварот, усё коціцца неяк само сабой да горшага. Ці даўно мы смяяліся з нахабна-імперскіх заяў Жырыноўскага і яго абяцанняў ператварыць усе нашы незалежныя дзяржавы ў губерні, а то і проста паветы вялікай Расійскай імперыі? І вось ён ужо пры ўладзе, абдымаецца з Зюганавым і гуляе, па яго словах, у шашкі з самім прэзідэнтам. А нядаўна і міністр замежных спраў Расійскай Федэрацыі афіцыйна заявіў, што Расія мае свае інтарэсы ў кожнай з былых рэспублік і зусім не збіраецца выводзіць адтуль свае войскі, шматзначна напомніўшы, дарэчы, і пра танкі. Пра танкі сапраўды ўсім нам добра помніцца: і ў Венгрыі, і ў Чэхаславакіі, і ў Афганістане, і нават двойчы ў самой Маскве. Што й казаць, матэрыялістычнае разуменне гісторыі: "сіла ёсць -- розуму не трэба". З танкамі, аднак, неяк ужо няёмка, не тыя часы. І вось пускаецца ў справу зноў-такі ў поўнай адпаведнасці з гістарычным матэрыялізмам другая сіла -- эканоміка, а замест розуму -- звычайная хітрасць. Замест танкаў у ход пайшоў рубель. У зону з калючым дротам загнаць нас ужо цяжкавата, паспрабуем у зону рублёвую.

На вульгарна разуметую эканоміку камуністы спасылаліся ў нас як на аснову ўсяго заўсёды. І ў нашым гора-парламенце таксама пастаянна паўтараюць, што трэба спярша, маўляў, накарміць народ, як быццам не народ іх корміць, а яны яго. Народ жа для іх што быдла, варта падкінуць яму трохі корму, і нічога, будзе маўчаць. А чалавечая годнасць, духоўнасць, нацыянальная культура, незалежнасць, свабода і дзяржаўны суверэнітэт -- абыдзецца ён і без гэтага. Вось такая, няхай нам прабачаць, быдлячая філасофія, якою кіруецца і нашае кіраўніцтва, і расейскі чырвона-карычневы імперыялізм. І ўсё гэта робіцца не без хітрасці: нельга рваць, маўляў, традыцыйныя гаспадарчыя сувязі, "мы без России не можем", выплываць трэба сумесна і г.д. і да т.п. Але ж недарэмна гаворыць прымаўка: хітрасць ёсць розум дурняў. Толькі дурань не разумее хіба, хто нас давёў да гэтага, хто ператварыў нашы краіны ў сіямскіх блізнятаў, перакроіўшы на свой капыл нашы традыцыйна-народныя гаспадаркі, што будаваліся вякамі, хто зрабіў з іх амаль што зусім самастойна нежыццяздольныя сыравінна-вытворчыя прыдаткі імперскага ваенна-прамысловага комплексу. Толькі дурань мог бы паверыць, што, напрыклад, Украіна не магла б абысціся без Расіі. Гэта краіна з 50-мільённым насельніцтвам, з найбагацейшымі матэрыяльнымі рэсурсамі, з выхадам да акіяна; краіна, роўная па сваіх магчымасцях першакласным еўрапейскім дзяржавам, такім, як, скажам, Англія, Францыя або Германія. І да чаго яе давялі цяпер? А ўжо пра нашу няшчасную Беларусь дык і зусім гаварыць няма чаго. Яе ўвогуле, калі і ўспамінаюць, дык толькі з бабурынскай склізка-іранічнай ухмылачкай. Праўда, калі ў нас тут часам пачынае нядобра пахнуць, дык сюды адразу ж злятаюцца гэтыя прыхільнікі двухгаловага арла з сярпом і молатам. Тыя ж іранічныя ўхмылачкі Алксніса і Бабурына ды крумкачына-злавесны стэрлігаўскі профіль усе мы бачылі, напрыклад, на так званым кангрэсе народаў Беларусі.

Ніхто не адмаўляе неабходнасці добразычлівага гаспадарчага супрацоўніцтва з Расіяй, як і з іншымі нашымі суседзямі. Ніхто не сумняваецца ў неабходнасці дружбы з вялікім рускім народам. Ніхто і не думае клікаць да эканамічнага ізаляцыянізму. Але такое супрацоўніцтва павінна здзяйсняцца пры дзвюх прынцыповых умовах. Яго трэба праводзіць, па-першае, толькі ў абставінах двухбаковых рынычных зносін, без адміністрацыйна-каманднага прымусу, г.зн. без магчымасці ў чыста палітычных, імперскіх інтарэсах перакрываць, напрыклад, газа- ці нафтаправод, як тое зроблена было нядаўна з намі і Украінай. І тым болей без адпаведнага цэнтральнага чыноўніцкага апарату, які зноў нам усім прыйшлося б карміць і які, прыслугоўваючы па прывычцы старэйшаму брату, толькі тармазіў бы развіццё справядлівых эканамічных зносін. Па-другое, гэтыя рыначныя адносіны павінны рэалізавацца на роўных, г.зн. узаемна справядлівых асновах. Умова такая пры сучасных геапалітычных і дэмаграфічных абставінах не можа рашыцца аўтаматычна, сама сабой. Велізарная перавага Расіі і па тэрыторыі, і па насельніцтву, і па колькасці прыродных рэсурсаў, і па ўзроўню, нарэшце, развітасці яе нацыянальнай культуры патрабуе для захавання раўнавагі пэўнага знешнеэканамічнага фактару. Інакш пойдзе імклівы і нястрымны працэс асіміляцыі, як гэта можна бачыць ужо цяпер, пры сучасных "празрыстых" межах. Працэс такі пойдзе яшчэ больш імкліва пасля ўвядзення адзінай рублёвай зоны, якая ўпадобіць нашы краіны дзвюм узаемазлучаным пасудзінам: узровень мізэрнасці жыцця ў іх адразу ж стане зусім аднолькавым. Гэта будзе "аншлюс", куды больш эфектыўны, чым нават "аншлюс" з дапамогаю танкаў.

Усе мы памятаем, як паступова бяднела і мізарнела Прыбалтыка, калі яна стала асіміляваццца расійскай эканомікай пры тагачасных агульных межах і адзінай рублёвай валюце. Калі ў першыя пасляваенныя дзесяцігоддзі туды яшчэ ездзілі ўсе за пакупкамі, то пазней і яна стала такою ж голаю, як і сама Расія. Ды й наша Беларусь так ці гэтак, але трымалася раней намнога вышэй "усесаюзнага" ўзроўню. Цяпер жа, пры той агульнай неразбярысе ў Расіі, там утворыцца сапраўдны вакуум, які ў імгненне вока высмакча ўсе нашы і так ужо зусім небагатыя матэрыяльныя і духоўныя рэсурсы. Гэта не кажучы ўжо пра наступствы нашага дагавора аб так званай сумеснай абароне ў выпадку паўтарэння ва ўсерасійскім маштабе югаслаўскага варыянта, магчымасць якога становіцца зараз, на жаль, усё больш і больш рэальнай. Нездарма ж пан Жырыноўскі так сардэчна цалуецца з сербскімі шавіністамі.

Адным з моцных ураўнаважваючых фактараў якраз і можа быць увядзенне самастойнай валюты, якая адразу ж паставіць пад кантроль гэты стыхійны асіміляцыйна-паглынальны працэс, паставіць перад ім своеасаблівую заслону. Яна, тая заслона, ні ў якім разе не будзе перашкаджаць нармальнаму абмену эканамічнымі вартасцямі, і ў тым ліку энергетычнымі рэсурсамі. Яна толькі будзе адыгрываць ролю спецыфічнага фільтра або клапана, які павінен рэгуляваць сам працэс абмену, каб зрабіць яго раўнапраўным і карысным для абодвух бакоў. Тую ж ролю будзе выконваць і пошлінна-мытная сістэма, якую зараз так не любяць нашы расійска-арыентаваныя бізнесмены з былых партапаратчыкаў, што займаюцца не столькі вытворчым бізнесам, колькі звыклаю спекуляцыяй і кантрабандай. Сюды ж адносіцца і субсідыйна-падатковая сістэма, магутны рычаг, якім наш урад зараз бязлітасна душыць яшчэ нясмелыя парасткі новага ў нашай эканоміцы і які на справе павінен, наадварот, абараняць і ахоўваць яе ад нястрымнага націску знешняга канкурэнта. Усе такія і падобныя ім пазаэканамічныя, ці, дакладней, пазарыначныя фактары якраз і павінны садзейнічаць развіццю ўласнай, нацыянальнай эканомікі, а тым самым і павышэнню ўзроўню нашага матэрыяльнага і духоўнага жыцця.

Зразумела, што азначаныя фактары маюць дзяржаўны характар і што гэта будзе сапраўды ўмяшанне дзяржавы ў эканоміку. Але не трэба таго баяцца. Як дэмакратыя, што процістаіць таталітарызму, ёсць усё ж такі ўлада, а не бязладна стыхійны анархізм, так і эканоміка ў норме ўяўляе сабою адзінства дзяржаўнасці і індывідуальна-асабістай ініцыятывы. Што гэта так, дастаткова глянуць на эканоміку Амерыкі, якая носіць змешаны, а не чыста рыначны, канкурэнтны характар. Славутая "нябачная рука" Адама Сміта, як называў ён чыстую канкурэнцыю, аказалася не ў стане справіцца з усімі складанасцямі эканамічнага развіцця грамадства, асабліва, калі яно ўключалася ў сістэму міжнародных эканамічных зносін. І ў смітаўскія часы існавалі такія дзяржаўна-эканамічныя з'явы, як меркантылізм і пратэкцыянізм, якія ахоўвалі ўласныя рынкі і падтрымлівалі эканамічную дзейнасць сваіх краін. Асабліва ж цікавымі ў гэтым сэнсе былі погляды нямецкага эканаміста Ф. Ліста, які ў адрозненне ад сучасных эканамістаў марксісцкага толку разглядаў эканоміку як арганічную частку нацыянальнай культуры ўвогуле, уключаючы ў вытворчую сілу нацыі не толькі матэрыяльна-тэхнічную дзейнасць з адпаведнымі сродкамі, але і духоўную культуру нацыі, яе палітычны лад, мараль, свабоду сумлення, традыцыі, звычаі, мову. Актыўна выступаючы за адраджэнне нямецкай нацыянальнай эканомікі і востра крытыкуючы смітаўскі касмапалітызм і матэрыялізм, Ліст лічыў, што эканоміка пэўнай дзяржавы можа ўступаць у міжнародныя эканамічныя сувязі толькі тады, калі "яны будуць стаяць на адной ступені развіцця, бо ў процілеглым выпадку такія сувязі будуць карыснымі толькі адной з тых дзяржаў, у адносінах да якой іншыя акажуцца фактычна ў падначаленым стане". Напісана гэта было паўтары сотні гадоў таму назад, але проста як пра цяперашніх нас з Расіяй, бо пісалася сапраўды ў абставінах, вельмі падобных на нашыя. Германія першай паловы XIX стагоддзя, якая тады была пераважна аграрнай прамыслова неразвітой дзяржавай, толькі што

(Заканчэнне на 5-й стар.).

# ЖЫЦЬ СВАІМ РОЗУМАМ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Таксама мне шкада, што ў Амерыцы вельмі мала ведаюць пра Беларусь, яе людзей, гісторыю, культуру. Многія нават не ўяўляюць, дзе яна знаходзіцца. Не так даўно я пабываў дома, у сваім штаце Нью-Джэрсі. Мае родныя і сябры пыталіся ў мяне: "Джордж, дзе ты працуеш? У Беларусі? А дзе гэта? Што гэта за краіна?" Вельмі рэдка ўпамінаецца яна ў друку. Пішуць больш пра Расію, Прыбалтыку, Украіну. На жаль, у Беларусі няма пастаянных прадстаўнікоў амерыканскай прэсы, як у іншых рэспубліках.

**-- І тым не менш, і прэзідэнт Клінтан, і міністр абароны ЗША Уільям Перы, якія на працягу паўгода наведалі Беларусь, добра ведаюць, дзе яна знаходзіцца. Ці не маглі б вы прывесці прыклады ўдалага супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі?**

-- Сур'ёзным штуршком да развіцця супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі стала тое, што Беларусь адмовілася ад ядзернай зброі і паслядоўна выконвае ўзятыя на сябе абавязацельствы ў напрамку раззбраення. Наш урад выдзеліў на дапамогу Беларусі 25 мільёнаў долараў, зараз гэтая лічба павялічана да 100 мільёнаў. Як вы ўжо сказалі, нядаўна ў Мінск прыязджаў міністр абароны ЗША Уільям Перы, гэты візіт таксама павінен умацаваць супрацоўніцтва нашых дзяржаў у ваеннай сферы.

Наша дзяржава заўсёды імкнулася да ўзаемадзеяння з іншымі краінамі. Апошнім часам намячаецца значнае развіццё абменных праграм. Мы запрашаем да сябе вашых спецыялістаў у розных галінах навукі, адукацыі, аграбізнесу, каб яны маглі паглядзець, як пастаўлены гэтыя справы ў нас, навучыцца нечаму новаму. Я лічу, што вам вучыць спецыялістаў больш выгадна, чым набываць машыны ці прыборы. Мы рады, што ўсё больш і больш беларусаў маюць магчымасць наведаць ЗША не толькі па афіцыйных каналах, але і прыватным чынам. Што тычыцца развіцця супрацоўніцтва ў сферы гандлю, то ў вас зараз вельмі складаныя ўмовы, і амерыканскім прадпрымальнікам проста незразумела, як тут сёння арганізоўваць бізнес. Аднак я бачу і нашы адносіны з вашым урадам, і адносіны паміж людзьмі, і лічу, што стасункі паміж Амерыкай і Беларуссю будуць развівацца.

**-- У апошні час уезд у вашу краіну значна спрасціўся. У Амерыку зараз едуць і камерсанты, і турысты, і добрыя спецыялісты. Але едуць і тыя, каго прынята называць крымінальнымі элементамі. Ці не ўзнікае лёгкага суму па тых часах, калі ў Амерыцы не ведалі рускую мафію, і ці не ўзнікне жадання спыніць гэты паток?**

-- Канешне ж, у нас ёсць магчымасць кантраляваць і рэгуляваць уезд і выезд, мы ўважліва сочым, хто і з якімі намерамі імкнецца ў нашу краіну. Але я б не сказаў, што ў нас узнікаюць сур'ёзныя праблемы з беларускімі грамадзянамі. Мы не ставім перад сабою мэты зачыніць Амерыку для тых, хто хоча займацца там бізнесам, едзе ў госці ці як турыст. Калі ж падданы вашай краіны ўчыніць у нас злачынства, ён, як і любы іншы, будзе адказваць перад законам. У нас досыць добра развіта праваахоўная сістэма, і мы зможам абараніць сябе ад тых, хто парушыць нашы законы. А ўвогуле, мы лічым сябе свабоднай краінай, да нас пастаянна прыязджае шмат турыстаў з усяго свету, і мы не лічым патрэбным ці магчымым зачыняць перад кім-небудзь дзверы.

**-- Сёння многія ў нас імкнуцца амерыканскі лад жыцця перанесці цалкам на беларускую глебу. Як вы ставіцеся да гэтага? Які вопыт лічыце карысным? Ад чаго хацелі б засцерагчы?**

-- Я ўвогуле не рэкамендаваў бы слепа прымяняць вопыт адной краіны да ўмоў і традыцый іншай. І ў Расіі, і ў Беларусі свая, адметная ад нашай, гісторыя, культура. Мы будавалі сваё грамадства, зыходзячы з таго, што добра, што карысна для нас, ваша жыццё таксама павінна будавацца, зыходзячы з вашых уласных інтарэсаў і традыцый. Сляпое капіраванне не можа даць станоўчых вынікаў.

Але ж у нас ёсць вопыт, які можна было б выкарыстаць і іншым краінам. І галоўнай перавагай Амерыкі, я лічу, свабодную прэсу. Яна дазваляе людзям атрымліваць шмат інфармацыі па любых пытаннях, а галоўнае -- розныя меркаванні і думкі. Заўсёды ёсць апазіцыя, ніхто нікому не закрывае рот, і, паверце, гэта зусім не страшна. Таксама я лічу, што мы справядліва ганарымся сваёй прававой сістэмай. Але і яна -- вынік нашай гісторыі! Амерыка таксама дае магчымасць здольнаму і таленавітаму чалавеку рэалізаваць сябе. Сведчанне гэтаму -- ваш зямляк Барыс Кіт. Але нічога ў Амерыцы дарма не даецца. Ёсць у нас і свае праблемы. Напрыклад, злачыннасць, наркаманія. Увогуле, я лічу, што людзі павінны мець магчымасць падарожнічаць, бачыць іншыя краіны, каб пазнаёміцца з іншым жыццём, іншымі ўмовамі, іншым вопытам. Толькі пазнаёміўшыся з тым, што дасягнулі іншыя, можна сфармуляваць і абраць уласны шлях.

**-- Што вы лічыце самым цікавым амерыканскім праектам на Беларусі?**

-- З майго пункту гледжання -- і асабістага, і прафесійнага, самае цікавае з таго, што мы тут робім, -- гэта стварэнне амерыканскага культурнага цэнтра ў Мінску. Самае важнае для нас -- расказаць вам, беларусам, аб нашай краіне, аб яе дасягненнях у навуцы, тэхніцы, адукацыі, культуры. Мы не разглядаем гэта, як прапаганду амерыканскага ладу жыцця, гэта імкненне да таго, каб нашы народы як мага лепш даведаліся адзін пра аднаго, пасябравалі. Адкрыць гэты цэнтр мы плануем прыкладна праз тры месяцы.

**-- Што за час вашага знаходжання на Беларусі ўразіла вас больш за ўсё?**

-- Я рызыкую сказаць банальнасць, але гэта -- вашы людзі, іх цяпло і дабрыня. І гэта заўважаю не толькі я. Калі сюды прыязджаюць нашы дэлегацыі, іх удзельнікі заўсёды адзначаюць, што беларусы -- вельмі адукаваныя, здольныя і добразычлівыя людзі. І, паверце, я гэта гавару ад усяго сэрца.



*НАЛЕЖАЦЬ НАШАЙ ГІСТОРЫІ*

# Антон ЛУЦКЕВІЧ: ФІЛАСОФІЯ І ЭСТЭТЫКА НАЦЫЯНАЛЬНАГА АДРАДЖЭННЯ

Прычына ўзнікнення мастацтва, на думку аўтара, хаваецца ў спрадвечнай чалавечай патрэбе ў самавыяўленні голасам (музыка), пластыкай і колерамі (выяўленчае мастацтва), рытмічнымі рухамі (танец), урэшце, словамі (паэзія). Зладжанае, гарманічнае самавыяўленне ў сістэме эстэтычных паняццяў пазначаецца прыгожым, а не гарманічнае самавыяўленне, калі ягоная форма не адпавядае зместу суб'екта самавыяўлення, -- камічным. У музыцы, харэаграфіі, выяўленчым мастацтве, на думку Луцкевіча, формы суб'ектыўнага выражэння дамінуюць над аб'ектыўнай рэальнасцю. Наадварот, у мастацкай літаратуры сродкам фарматворчасці выступае слова, гэта значыць, вобраз-паняцце, якое імкнецца да аб'ектыўнага апісання рэальнасці. Але і ў мастацкай літаратуры ёсць істотная розніца паміж прозай, якая імкнецца да адлюстравання жывой рэальнасці, і паэзіяй, немагчымай без лірычнага пачуцця, суб'ектыўнага ў сваёй аснове. Аб'ектыўнасць мастацкага слова і, як вынік, на думку Луцкевіча, "зразумеласць для ўсіх" літаратуры спрычыніліся да таго, што якраз на літаратурным шляху "найбольш людзей шукае магчымасці самавыяўлення і тварэння красы". Вось чаму "літаратура -- гэта найлепшы праваднік новых ідэй і поступу ў народную гушчу, гэта -- сапраўдная школа народаў". Сакрэт таленту паэта-прарока -- у ягонай здольнасці да глыбокага і эстэтычна дасканалага выяўлення думак, радасцяў і пакутаў народных.

На роздум аб прыродзе мастацтва, красы, іх ролі ў жыцці людзей, прызнаваўся Луцкевіч, схіліла яго творчасць М. Багдановіча. Вытокі красы, на думку крытыка, трэба шукаць у спрадвечным імкненні ўсяго жывога да самазахавання і размнажэння, субліміраваным у пачуцці любові. На шляху эвалюцыі пачуццё любові паступова вызвалялася ад непасрэднага утылітарызму, яно сталася для душы і свядомасці самамэтай, нярэдка даражэйшай за само жыццё. Тады краса вызвалілася ад сваёй архаічнай функцыі ў якасці пабудкі да любові, ахапіла ўвесь свет, усю бязмежную прыроду, усю разнастайнасць матэрыі і духу. Краса стала для свайго творцы самамэтай. Эстэтычныя пачуцці, якія выклікаюць сузіранне і перажыванне красы, -- гэта магутны ўздым душэўных сіл -- як экстаз кахання. Адсюль яе грамадская функцыя -- узбуджаць і павышаць жыццёвы тонус у асобе, грамадстве, нацыі. Такое разуменне красы, на думку Луцкевіча, ахоплівае вядомую "працоўную тэорыю" паходжання мастацтва.

Цікава зазначыць, што заснавальнікі літаратурна-мастацкага згуртавання "Узвышша" прыдалі гэтай "вітаісцкай" ("жыццёвай") канцэпцыі мастацтва скарэй духоўны і сацыяльны, чым біялагічны сэнс, назваўшы свой ідэал творчасці аквітызмам (ад лацінскіх aqua -- вада + vita -- жыццё, жывая вада).

А. Луцкевіч не прэтэндаваў на арыгінальную эстэтычную тэорыю. Ён умела скампанаваў метадам канцэптуальнага адбору вынікі папулярных у другой палове XIX -- пачатку XX стагоддзяў біялагічнай, псіхалагічнай, пазітывісцкай і сацыялагічнай плыняў у еўрапейскай эстэтыцы. Напрыклад, запазычыў вядомае тлумачэнне рытму: "Усе віды мастацтва, дзе матэрыялам з'яўляецца гук і жэст, рух, -- нормуюцца сталымі рытмічнымі рухамі ў нашым арганізме. Нормуюць іх: дыханне і біццё сэрца". Новым у беларускага эстэтыка быў, па-першае, папулярны выклад гэтых заблытаных і супярэчлівых тэорый, па-другое, аналіз у іх кантэксце нацыянальнай літаратурнай класікі і новых плыняў нашай паэзіі 20-х гадоў. Праўда, яму ўсё ж не ўдалося шчыльна спалучыць гэтую запазычаную тэорыю з беларускай мастацкай практыкай. Пазітывісцкай і псіхалагічнай тэорыям не хапала духоўнай вышыні, каб падняцца да ўзнёслых ідэалаў класічнай літаратуры.

Затое аўтар "Адбітага жыцця" ўзбагаціў сваю ранейшую, "нашаніўскую" канцэпцыю гісторыі роднай літаратуры, арыгінальна вытлумачыў творчы лёс яе пачынальнікаў і класікаў, урэшце, прадаўжальнікаў іх справы ў 20-я гады -- ад Паўлюка Багрыма і Дуніна-Марцінкевіча да Наталлі Арсенневай і Уладзіміра Жылкі. Праўда, тут, як і ў ранейшых крытычных творах, А. Луцкевіч усё яшчэ недаацэньвае "шляхецкага этапу" ў нашай літаратуры, які пачынаўся Янам Чачотам і закончыўся ў XX стагоддзі Ядвігіным Ш. Тут сацыяліст, амаль атэіст, ідэолаг сялянска-работніцкай Беларусі браў верх над эстэтам. Аднак памяркоўная класавая тэндэнцыйнасць не перашкодзіла яму заставацца крытыкам вытанчанага густу, які сказаў пра шляхціца Антона Лявіцкага: беларускі рух цэніць у ім не дрэннага палітыка, а таленавітага Мастака Слова.

Што датычыцца дакладных эстэтычных ацэнак А. Луцкевічам творчасці Якуба Коласа, Янкі Купалы, М. Багдановіча, то яны і сёння гучаць свежа і актуальна. Якуб Колас, казаў ён, "першы сярод нашых песняроў іменна ў галіне малявання прыроды, і паэма яго "Новая Зямля" з гэтага пагляду не мае сабе роўнае ў нашай літаратуры"; а мяккасць тонаў, якімі малюе паэт родныя вобразы, -- прыкмета яго паэтычнага стылю. Янка Купала -- гэта вялікі мастак слова, які на мове сваёй роднай нясе красу беларускую ўсяму свету; вершы яго вызначаюцца "лёгкасцю мовы, пачуццём рытму, сілай экспрэсіі і музыкальнасцю". М. Багдановіч -- наш настаўнік у паэзіі, які ўласнай творчасцю даказаў, што ў нашай мове можна выказаць усё, што перажывае не толькі народ просты, але і таксама інтэлігент "еўрапейскага тыпу".

У артыкуле "На новы шлях" (1923) А. Луцкевіч зафіксаваў прыкметы імпрэсіянізму ў паэзіі Коласа, беларускі сімвалізм Купалы, наватарства У. Жылкі і У. Дубоўкі, футурыстычныя павевы ў Міхася Чарота. Сваёй рэцэнзіяй "Ідэолагі народнай інтэлігенцыі" (1921) ён адкрыў самабытны талент Максіма Гарэцкага, дакладна ацаніў ягоныя аповесці "Антон" і "Дзве душы". Яшчэ адно адкрыццё Луцкевіча -- паэзія Наталлі Арсенневай. Сваю рэцэнзію на першую кніжку паэткі "Пад сінім небам" (Вільня, 1927) крытык закончыў дакладна і прыгожа: "Добра быць коласам, -- кажа Багдановіч у сваім "Апокрыфе", -- але шчаслiў той, каму давялося быць васільком. Такое шчасце выпала на долю нашае маладой паэткі: яе творы -- гэта сапраўды быццам тыя сіненькія васілёчкі пад нашым сінім небам сярод жыта".

Кніжка "Адбітае жыццё" завяршаецца артыкуламі "Бунт проці Бога" (пра багаборчыя матывы і экспансію атэізму ў беларускай літаратуры), "Вільня ў беларускай паэзіі", "Жыдоўскае пытанне ў нашым пісьменстве" -- зусім новыя тэмы, яшчэ не даследаваныя ў нашай навуковай літаратуры. Кніжка А. Луцкевіча і сёння адкрывае іх для чытача.

Язэп Пілсудскі пачаў сваю "санацыю" ў Польшчы неяк ужо ўзгоднена з калектывізацыяй Іосіфа Сталіна: у 1927--1930 гадах. На паўварварскім Усходзе і паўцывілізаваным Захадзе ў ахвяру прыносілі Беларусь, яе культуру. Пачалося даволі першабытнае, пячорнае спаборніцтва: хто першы зліквідуе беларусаў як нацыю з тысячагадовай дзяржаўнай і культурнай традыцыяй. Была, праўда, і розніца ў метадах: калі ў СССР наладзілі банальнае паляванне на беларускую эліту, то ў Польшчы зачынялі беларускія школы, іншыя культурныя ўстановы і грамадскія арганізацыі, а нацыянальную эліту гналі ў астрогі альбо на той жа Усход -- пад бальшавіцкую сякеру рэпрэсіяў.

А. Луцкевіч не далучыўся да пракамуністычных груповак, якія пачалі сілавое супрацоўленне з мэтай далучэння Заходняй Беларусі да БССР. Яго па-свойму "паважалі": пазбавілі толькі права выкладаць у гімназіі беларускую літаратуру як "неспецыяліста". Між тым ён, як і блізкі да яго Уладзімір Самойла, мог бы ўпрыгожыць кафедру літаратуры прэстыжнага еўрапейскага універсітэта.

На сваю Галгофу ён пайшоў у 1940 годзе, калі Чырвоная Армія заняла Вільню, прынёсшы на сваіх плячах д'ябальскую "санацыю" -- НКВД і яе бясконцыя метастазы. Дваццаць месяцаў пакутаваў ён у невядомых астрогах і яшчэ пяць гадоў -- у расійскіх ГУЛАГах. Урэшце -- смерць, а скарэй -- забойства.

Калі ўваскрэсне Беларусь (а яна пачынае пакутліва ўваскрасаць), тады яе вялікія пакутнікі вернуцца на Бацькаўшчыну ў сваіх духоўных абліччах. І тады выдадуць усе творы Антона Луцкевіча, імем яго назавуць вуліцы, школы, музеі.

Расійскі філосаф Мікалай Фёдараў меў рацыю: нашчадкі павінны ўваскрашаць сваіх продкаў.

**Уладзімір КОНАН.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у № № 10 — 13.**

# ДАПАМОГА З ДАЛЁКАЙ КРАІНЫ

Гэтыя дзеткі, як выявілася, нават не падазравалі, што на свеце ёсць такі мацярык, такая краіна, як Аўстралія. Ну а тое, што там, за марамі-акіянамі, жывуць сапраўдныя браткі-беларусы, было для іх весткай неверагоднай, амаль фантастычнай. Але што ўсё гэта не міф, не прывід, кожны з іх мог упэўніцца, дакрануўшыся рукамі да пака, дастаўшы адтуль шпрыц, прачытаўшы напісаны па-англійску і па-беларуску адрас, дзе быў пазначаны горад Мельбурн, той самы, у якім колісь праходзілі Алімпійскія гульні.

Яўген Лецка, кіраўнік выдавецкага цэнтра "Бацькаўшчына", расказаў дзецям пра беларусаў у свеце, пра іх шчырую адданасць роднай маці-Беларусі. Што датычыць беларускага зямляцтва ў Мельбурне, то адтуль яшчэ ў жніўні мінулага года прыйшоў ладунак з дзевяццю тысячамі аднаразовых шпрыцаў, якія былі перададзены Я.Лецкам у 5-ю клінічную бальніцу Мінска і ў Інстытут неўралогіі, нейрахірургіі і фізіятэрапіі пры ім.

Такім чынам суродзічы стараюцца дапамагчы ў нашай незагойнай чарнобыльскай бядзе. У набыцці і перасылцы лекаў найбольшая заслуга Уладзіміра Сідлярэвіча. Спрычыніліся да гэтага таксама Яўген Груша, Павел Гуз, браты Алег і Уладзімір Шнэкі. Апрача іншага, яны дбайна паклапаціліся, каб дзеці, якія прыязджалі з Беларусі ў Аўстралію на аздараўленне, адчувалі там сябе як дома...

Ну а гэтыя, якіх вы бачыце на здымку, рады і таму, што іх з розных канцоў Беларусі сабраў пад свой гасцінны дах санаторый "Дружба". Найбольш тут дзяцей з Гомельшчыны -- Лельчыцкага, Нараўлянскага, Ельскага, Кармянскага, Чачэрскага раёнаў, дзе радыяцыя ад 5 да 10 кюры на квадратны метр. Уцячы ад яе хоць на месяц -- таксама шчасце і выгода. Бо выязджаюць дзеці з санаторыя павесялелымі і падужэлымі, з чырвонымі шчокамі і іскрынкамі ў вачах.

Пры санаторыі дзейнічае пачатковая школа, выкладанне ў якой вядзецца на беларускай мове. І ўсе яе выдатна разумеюць, нават тыя, што трапляюць сюды з рускіх школаў, якіх на Беларусі ўсё яшчэ нямала. І вельмі добра, што галоўны ўрач санаторыя Міхась Астрэйка дбае не толькі пра фізічнае, але і маральнае, духоўнае здароўе сваіх маленькіх падапечных, сам добра ведае гісторыю і культуру Беларусі, выдатна валодае роднай мовай. Ён кандыдат медыцынскіх навук, мог бы працаваць у навукова-даследчым зацішку альбо выкладаць на кафедры ў інстытуце, але, як бачым, спакойную працу памяняў на штодзённыя клопаты: дастань, прывязі, здабудзь, уладкуй, накармі, вылечы! І ўсё гэта коштам неймаверных намаганняў, бо Беларусь сёння як той растрэсены, дашчэнту разбіты воз!

Да дзяцей у бядзе Міхась Нічанорвіч мае асаблівыя пачуцці, бо і сам у маленстве сербануў гора па самае горлзе. Была тады вайна, нямецкая акупацыя, а іх вёска апынулася ў партызанскай зоне. Яе спалілі карнікі, а людзі паўцякалі ў лес. Каб не скалець днём, калі не было самалётаў, грэліся ля вогнішча, а нанач маці ўсцілала прысак яловымі лапкамі, клала на іх двух брацікаў, а зверху накрывала іх сваім целам. Ну а яда -- якая яда зімою ў лесе?!

Шмат чаго не хапае ў санаторыі дзецям, але цяпер, на прадвесні, асабліва адчуваецца нястача вітамінаў. І ў гэтым, на жаль, ім не можа паспрыяць Людміла Казлова, якая некалькі месяцаў як перайшла на працу начальнікам медыцынскай службы "Белміжкалгасздраўніцы", з імпэтам узяўшыся выконваць свой высакародны абавязак. Клопату ёй таксама хапае і яшчэ трошкі: у падначаленні каля дзесятка санаторыяў, у якіх адпачываюць і лечацца вясковыя людзі Беларусі.

І тыя, хто лечыць, і тыя, каго лечаць, кажуць шчырае дзякуй сваім суродзічам з Аўстраліі за іх бескарыслівую дапамогу ў нялёгкую для Беларусі часіну.



**НА ЗДЫМКУ: галоўны ўрач санаторыя "Дружба" Міхась АСТРЭЙКА ( у цэнтры) прымае дапамогу ад землякоў з Аўстраліі.**

**Я.ВАРАНЕЦ.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# ЧЫТАЦЬ, ВЫВУЧАЦЬ, АСЭНСОЎВАЦЬ

Апынуўшыся на выставе "Беларуская кніга-94", адчуваеш сябе нібы ў іншай дзяржаве. Няма ніякай вулічнай мітусні. Ад тых, хто прыйшоў сюды, вее цяплом, а ў вачах свеціцца надзея. Гэтую надзею ўсяляюць шчыльныя рады выдатных беларускамоўных кніг, што выйшлі ў свет за апошні час, нягледзячы ні на якія эканамічныя ці палітычныя цяжкасці. Тут не думаеш пра шэрую рэчаіснасць. Калі трымаеш у руках такія кнігі, як "Живописная Россия", энцыклапедыя "Археалогія і нумізматыка", факсімільнае выданне "Нашай нівы", бачыш шматлікія слоўнікі і падручнікі, якія будуць чытацца і вывучацца, верыш, што беларускасць жыве і рана ці позна заглыбіцца ў свядомасць кожнага беларуса.

Галоўнай падзеяй мінулай выставы была прэзентацыя першага тома "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі". "Гэта першая ў гісторыі нашай Бацькаўшчыны энцыклапедыя, у якой яе стваральнікі імкнуцца найбольш поўна, на найноўшых дасягненнях навукі адлюстраваць шматвяковы шлях беларусаў ад сівой даўніны да сучаснасці ў непарыўнай сувязі з гістарычным працэсам на Еўрапейскім кантыненце", -- напісаў у сваёй прадмове Міхась Ткачоў. Ён браў актыўны ўдзел у стварэнні кнігі, напісаў шмат артыкулаў пра замкі, зброю, абарончыя збудаванні. На жаль, сам не дажыў да дня выхаду кнігі ў свет. Яго калегі пакінулі ўсё ў тым выглядзе, які быў пры ім і за яго подпісам, аддаючы належнае Міхасю Ткачову, гісторыку і грамадскаму дзеячу.

"Самае галоўнае, самае каштоўнае ў нашай кнізе, -- адзначае загадчык рэдакцыі гісторыі Беларусі выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" Віталь Скалабан, -- гэта першая спроба паказаць свой уласны пункт гледжання на беларускую гістарычную справу незалежна ад погляду на яе нашых суседзяў. Зрабіць гэта было даволі цяжка, бо праца над кнігай пачалася аж у 1988 годзе, калі мы яшчэ ўваходзілі ў СССР. Увесь свой шлях да незалежнасці мы назіралі і засведчылі наколькі маглі".

Удзельнічаў у стварэнні энцыклапедыі вялікі калектыў аўтараў: супрацоўнікі Інстытута гісторыі АНБ, выкладчыкі ВНУ, работнікі архіваў, навукоўцы, краязнаўцы. Шмат аўтараў з Масквы, Санкт-Пецярбурга і нават краін далёкага замежжа.

Своеасаблівасцю тома з'яўляецца і тое, што ў ім знайшлі адлюстраванне не толькі чыста гістарычныя падзеі, а шырока прадстаўлена і культурнае жыццё, мастацтва, літаратура. Упершыню пададзена ў энцыклапедыі эміграцыя, яе вядомыя дзеячы, эміграцыйныя перыядычныя выданні. Вітаўт Кіпель напісаў артыкул "Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква".

Артыкулы, што пачынаюцца на "Б", даюць магчымасць паказаць Беларусь і беларусаў як нацыю, якая змагалася за ўласную дзяржаўнасць на працягу ўсёй сваёй доўгай і шматпакутнай гісторыі. Тут беларускія партыі, якія існавалі, якія існуюць цяпер. Вельмі грунтоўнымі падаюцца артыкулы спадароў П. Церашковіча і І. Чаквіна "Беларусы", А. Сідарэвіча -- "БНР", Л. Лойкі -- "БССР".

Выхад другога тома плануецца ўжо на восень гэтага года. А пакуль лепшае, што можна параіць, гэта набыць кнігу, уважліва яе чытаць, вывучаць і асэнсоўваць.

**Таіса БАНДАРЭНКА.**



# BELARUSIAN ASSOCIATION OF AUSTRALIA

**BOX No 94, P.O. FAIRFIELD. N.S.W. 2165**
**Australia**

**Рэдактару**
**Газэты "Голас Радзімы"**

*Сакавік -- 1994 г.*

**Высокапаважаны Сп. Рэдактар!**

Нягледзячы на тое, што мы жывем ў далёкай Аўстраліі ўжо болей за 45 гадоў, мы ўсяроўна ўважаем сябе за непадзельную частку беларускага народу, і мы шчыра вітаем усіх Вас з 76-мі Угодкамі арыгінальнага Абвешчання Незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі і жадаем Вам і ўсяму беларускаму народу Вольнасці і Незалежнасці ды дабрабыту ў будучыні.

У 1918-м і наступаючых гадах маладая Беларуская Народная Рэспубліка была знішчаная пераважаючымі сіламі ворагаў незалежнасці Беларусі, і гэты балючы факт прыпамінае нам, каб мы і сёння былі заўсёды гатовымі даць скоры і моцны адказ усім тым, якія магчыма ізноў захочуць знішчыць адноўляную Незалежнасць Рэспублікі Беларусь.

**ВЕЧНАЯ СЛАВА І ГОНАР ЗМАГАРАМ ЗА СВАБОДУ!!!**
**НЯХАЙ ЖЫВЕ ВОЛЬНАЯ І НЕЗАЛЕЖНАЯ БЕЛАРУСЬ!!!**

З вялікай пашанай да Вас

**Алесь АЛЕХНІК,**
**Гэнэральны Сакратар.**

З БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

# БДА БУДЗЕ ЖЫЦЬ

20 сакавіка ў Беластоку адбылася значная падзея -- III кангрэс Беларускага дэмакратычнага аб'яднання (БДА), на якім вырашаўся далейшы лёс партыі.

Правал на апошніх самаўрадавых і чарговых парламенцкіх выбарах балюча адгукнуўся ў сэрцах беларускіх палітыкаў. Расчараванне рэчаіснасцю, разгубленасць адчуваліся сярод выступаючых. Нават у справаздачы старшыні сп. А. Латышонка прагучала пытанне: "Навошта такая партыя, якую не падтрымала беларускае насельніцтва?" Дэбаты былі доўгімі і бурнымі. Выступленне Алены Глагоўскай з Гданьска, здаецца, стала пераломным у настроі кангрэса: "Нельга адмаўляцца ад таго, што зроблена, а БДА зрабіла вельмі шмат. Калі яшчэ было праведзена столькі выбарчых кампаній? Калі наогул існавала яшчэ беларуская партыя ў замежжы? Хто дапамог уратаваць помнік XV стагоддзя -- царкву і манастыр у Супраслі?"

Далейшыя прамовы былі больш аптымістычнымі.

Вельмі ветліва дэлегаты кангрэса сустрэлі прадстаўнікоў ЗБС "Бацькаўшчына". Ганна Сурмач -- старшыня непалітычнай грамадскай арганізацыі, якая выступіла як прадстаўнік беларускай сусветнай супольнасці, у сваёй прамове адзначыла, што беларускасць не павінна знікнуць на Беласточчыне.

Напрыканцы было абрана новае кіраўніцтва, Старшынёй БДА стаў Пётр Крук, каардынатарам -- Уладзімір Пац. Пятро Юшчук -- старшыня Беларускага саюза ў Польшчы павіншаваў ўсіх абраных і выказаў спадзяванне, што ўсе новыя сябры Галоўнай Рады выкарыстаюць свой багаты вопыт на актывізацыю дзейнасці гэтай адзінай у замежжы беларускай партыі і беларускай справы наогул.

**Ніна ПЕТУХОВА.**

**Генадзь АЎЛАСЕНКА**

## СПАДАРАМ-БЕЛАРУСАМ

**Ну якія ж мы спадары!!**
**Ды у нас што хочаш бяры,**
**Мы яшчэ і заплюшчым вочы...**
**Мы -- як госці ў сваім двары...**
**Вось якія мы спадары!**
**Ні аб чым і думаць не хочам.**

**Ну якія ж мы спадары!!**
**Мы -- зямлі сваёй гандляры,**
**Мы яе, як чужынцы, рабуем...**
**Пасля нас хоць агнём гары...**
**Вось якія мы спадары!**
**Ну а ўнукаў у лапці абуем.**

**Ну якія ж мы спадары!!**
**Нас з кастрычніцкай "светлай" пары**
**І не год, а семдзесят тры,**
**Абяцанкамі частавалі**
**Нашы "слаўныя" правадыры,**
**Прайдзісветы і махляры...**
**Дык якія ж мы спадары,**

**Калі мы ім усё даравалі!!**
**Калі мы іх нават любілі...**

**І не год, а семдзесят тры...**
**Мы і матчыну мову згубілі...**
**Спадары...**

З ВІЛЬНІ

# ТАКОЕ МОЖА БЫЦЬ ТОЛЬКІ Ў БЕЛАРУСІ

21 снежня 1993 года ў Вільні праходзіла выстава беларускіх кніг і выданняў. Шмат гаварылі, што кніга збліжае нацыі. Акрамя таго беларускія выданні і кнігі на беларускай мове патрэбны беларусам, якія жывуць у Літве. На выставе шмат было дзяцей, якія вучацца ў беларускіх класах віленскіх школ. Дамовіліся, што кнігі на беларускай мове будуць прадавацца ў кнігарні "Летувос спаўды". Для гэтага ўласна была арганізавана выстава, дзякуючы намаганням віленскіх беларусаў. Аб гэтым гаварыў дырэктар "Белсаюздруку" Юрый Хмыраў, якога запрасілі ў Літву. Але мерапрыемства праведзена па-камуністычнаму, "для галочкі", паабяцаў, а "воз и ныне там".

Цяпер сорамна зайсці ў кнігарню і спытаць аб выданнях з Беларусі, бо адразу пачуеш адказ: "Нічога не паступала", а такая была рэклама! Сорамна! Ды не толькі з-за гэтага. Юрый Хмыраў, які прадстаўляў галіну культуры Беларусі, не размаўляў па-беларуску ды яшчэ сказаў: "Я не беларус". А супрацоўніца, што была з ім, адказала: "Я размаўляю па-французску". Дробязь. Так, гэта іх справы. Але наш святочны настрой быў сапсаваны. Такое можа быць толькі ў Беларусі, не на Украіне ці ў іншых краінах, ужо не кажучы пра Прыбалтыку.

**Леакадзія МІЛОШ.**

Літва.

# НЕ ТАНКАМІ, ДЫК РУБЛЁМ...

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).**

вырваўшыся з-пад акупацыйнага напалеонаўскага бота і адваяваўшы свой суверэнітэт, аказалася сам-насам перад магутнай англійскай эканомікай, што ўяўляла сабою небяспеку для незалежнасці Германіі яшчэ можа большую, чым арміі Напалеона. І менавіта прапанаваная Лістам эканамічная палітыка дапамагла Германіі выстаяць і праз якія-небудзь паўстагоддзя ператварыцца ў першакласную развітую еўрапейскую дзяржаву, моцную не толькі эканомікаю, але і духам. Тое, дарэчы, якраз і меў на ўвазе Бісмарк, калі выказаў свой славуты афарызм, што ў бітве пры Садовай перамог школьны настаўнік (у гэтай бітве была пераможана вялікая і магутная па тых часах Аўстрыя, якая таксама замахвалася на нямецкі суверэнітэт). А як адносіцца да духоўнасці і, у прыватнасці, да адукацыі наша кіраўніцтва?

Баяцца любога ўмяшання дзяржавы ў эканамічнае жыццё -- гэта таксама экстрэмісцкі стэрэатып, хоць ужо і антымарксісцкага толку. Процілеглыя крайнасці, як вядома, сыходзяцца. Менавіта марксізм-ленінізм як прыярытэт проціпастаўляў эканоміку духоўнай культуры, і менавіта ж ён разумеў дзяржаву як толькі машыну для сілавога, фізічнага прымусу. Таму і на сучасную заходнюю эканоміку былыя марксісты-ленінцы глядзяць зайздросна-сквапнымі вачыма, як на вынік першынства эканомікі і матэрыяльных каштоўнасцяў перад духоўнай культурай, забываючыся, што і на Захадзе небывалы па нашых мерках узровень матэрыяльнага жыцця быў дасягнуты не столькі пад націскам эгаістычнага інстынкту асабістай нажывы, колькі пад высакародным уплывам маралі і рэлігійнай этыкі. Успомнім хаця б славутую працу М. Вебера "Пратэстанцкая этыка і дух капіталізму", на якую мне не раз ужо даводзілася спасылацца. А вялікі англійскі эканаміст А. Маршал дык проста пісаў, што рэлігія і эканоміка з'яўляюцца асноўнымі рухаючымі сіламі прагрэсу, ставячы рэлігію на першым месцы. Тое ж самае сцвярджаў і расійскі філосаф і эканаміст С. Булгакаў. Ды і зараз на Захадзе нямала прыхільнікаў дзяржаўнаэтычнага кірунку ў палітэканоміі і палітыцы, як, напрыклад, хрысціянскія дэмакраты, якія, дарэчы, здзейснілі вядомы "нямецкі цуд", падняўшы тую ж разгромленую ў другой сусветнай вайне Германію да сучаснага яе стану.

Дзяржава, аднак, для гэтага павінна адпавядаць самым строгім патрабаванням этыкі. Недарэмна ж вялікі нямецкі філосаф Гегель акрэсліваў некалі дзяржаву як рэальнасць маральнай ідэі. Дзяржаву можна было б сапраўды метафарычна вызначыць як крышталізаваную форму нацыянальнай культуры, культуры як матэрыяльнай, так і духоўнай, вяршыняй якой з'яўляецца дзяржаўны суверэнітэт. А такою яна можа быць толькі тады, калі людзі, што ўвасабляюць яе, самі ўяўляюць сабою вышэйшы ўзор духоўнасці, вышэйшы маральны ўзор, самі з'яўляюцца носьбітамі народнай павагі, даверу і найвышэйшага этычнага аўтарытэту, якім народ можа даверыць і сваю духоўную культуру, і сваю эканоміку. Толькі такую дзяржаву меў, напэўна, на ўвазе Хрыстос, калі гаварыў, што ўсякая ўлада ад Бога. Што ж тады можна было б сказаць пра нашу цяперашнюю дзяржаву?

Улада яе хутчэй ад д'ябла. Не сакрэт, што дзяржаўныя нашы структуры знаходзяцца поўнасцю і зверху данізу ў руках былой партнаменклатуры, г.зн. людзей, да якіх няёмка неяк і стасаваць азначаныя вышэй маральныя патрабаванні. Сёння свядома развальваецца беларуская нацыянальная эканоміка і губіцца беларускі суверэнітэт, каб паказаць, што "не можем мы без России", каб здаць нашу маладую Рэспубліку Беларусь зноў пад імперскі жырыноўска-зюганаўскі пратэктарат (нават ельцынская дэмакратычная Расія іх не задавальняе). Апошняе несумненна з'яўляецца ўжо дзяржаўным злачынствам, што ў іхняй жа юрыдычнай тэрміналогіі акрэслівалася як здрада радзіме.

Але не будзем удавацца ў тонкасці юрыспрудэнцыі, не будзем забягаць наперад: Феміда, думаецца, яшчэ скажа некалі сваё важкае слова. Ды і народ ужо яскрава бачыць, з кім ён тут мае справу, асабліва цяпер, пасля лукашэнкаўскіх выкрывальных прамоў, зробленых па прынцыпу "трымай злодзея", і ганебнага спектакля з адхіленнем старшыні Вярхоўнага Савета С. Шушкевіча. Урад і Вярхоўны Савет з яго пракамуністычнай большасцю стаяць зараз перад намі, быццам голыя каралі, і галоўная цяпер задача -- гэта любымі маральна і юрыдычна законнымі сродкамі прымусіць іх перагледзець узяты імі палітычны курс на ўдушэнне маладой беларускай дзяржавы і вярнуцца на службу ўласнаму народу.

**Мікола КРУКОЎСКІ,**
**прафесар, доктар філасофскіх навук, старшыня Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай злучнасці.**

Уладзімір КЛІШЭВІЧ

# ВАСІЛЬ КАЛІНА

### X X I I I

Ад веку ў век жыцьцё
ў народзе
Сьлязамі й песьнямі бяжыць.
Адны ў магілу адыходзяць
Другія родзяцца,
каб жыць.
Гляджу іначай трохі я,
Такая думка ўжо мая:
На гэтым сьвеце
людзі болей
Змагаюцца, бязьмерна
плачуць,
Клянуць свой лёс,
клянуць няўдачы
Ў змаганьні з
цяжкаю нядоляй.

### X X I V

Ні вы, ні я стрымаць ня можам
Ні часу бег, ні сьмерці ход.
Самім сабе не дапаможам,
Каб лёс наш бачыць напярод.
Каб паглядзець: куды, калі,
К якому месцу прыплылі
Жыцьця суровага зямнога,
І ці далёка шчасьця хвалі
Ад нас туманам захавалі,
Чаго чакалі мы так многа.

### X X V

Пакуль мы з вамі разважалі
Пра час, які у вечнасьць бег,
Ля хаты сані ўжо стаялі,
Ля саней -- вытаптаны сьнег.
Чаго чакалі там яны,
Бяз коней стоячы адны!
Мо тыя, хіба, што ня могуць
Гуляць так позна на радзінах,
А зараз позняя гадзіна,
Ужо зьбіраюцца ў дарогу!

### X X V I

Чакае старасьці пашана:
Падрыхтаваны пышна воз,
Сядзеньне коўдраю заслана,
На ёй мароз узор нанёс.
Вядуць старую за парог,
У сані садзяць. А запрог
У воз мужчын прыняты звычай.
Вязуць па вуліцы старую,
Як бы пакрыўджаны,
гаруюць
Усёй істотай і абліччам.

### X X V I I

Чым болей цяжкі воз да хаты
Вязуць яны, і чым цяжэй
Ступаюць ногі, тым заплату
Даюць гарэлкай даражэй;
Тым баба лепш частуе іх --
Пашана лепшая для ўсіх.
Дык нават збоку
сьмешна будзе:
Вязьлі старую, як папала,
Яна ў дарозе больш стаяла,
За што-ж плаціць
дарэмна людзям!

### X X V I I I

Прывезьлі з гонарам старую,
Пад рукі ў хату завялі,
Гарэлкі бабе не даруюць:
Глядзяць, ці хутка "жураўлі"
З гарэлкай стануць на стале!
Ці хутка ім яна нальле
За працу выпіць! Неўзабаве
Стол пад закуску прыбірае,
Частуе радасна старая.
Гамоняць чаркі ў
звонкай славе.

### X X I X

Ня йдзе Сьцяпан нікуды
з дому,
Гасьцей пара ўжо адпраўляць.
Гарэлкі трэба браць, самому
Ісьці на двор і частаваць
На разьвітаньне ўсіх гасьцей,
Каб тыя езьдзілі часьцей.
Іх коні ўжо каля парога
Стаялі, збруяю зьвінелі,
Махалі грывамі, хрыпелі,
Як перад нейкаю трывогай.

### X X X

Сьцяпан, з гарэлкай на паднОсе,
Закускі шмат яшчэ бярэ,
Да воза чаркі сам падносіць,
Гасьцей частуе на дварэ.
Праходзіць час. Цяпер пара...
Ўсе разьязджаюцца з двара.
Зьвіняць аброці. На зялезе
Рыпіць замёрзлае палозьзе,
А коні скачуць па дарозе,
Сьляды губляючы на сьнезе.

### X X X I

Дзівіўся я чужым вясельлям,
Як сані мчацца ў перагон,
Як з песьняй шумнаю, пад
хмелем
Чуваць далёка збруі звон.
Як сэрца радасна гарыць,
Калі на небе бляск зары
Яшчэ Вэнэра ня тушыла!
Прыемны час тады пагляду,
Як белы сьнег слупамі ззаду
Гарыць пры сьвеце
срэбным пылам.

### X X X I I

Прыемны белы сьнег зімою
І моцны студзеньскі мароз,
Калі ўздоўж вуліц чарадою
Рады прыбраныя бяроз
Стаяць у срэбранай красе,
Як вецер ласкава трасе
Дадолу мяккія пушынкі
І як ссыпаюцца рупліва
Сьняжынкі к сонцу
пералівам,
Калі калышуцца галінкі.

### X X X I I I

А ноччу, ў часе сьнежнай буры,
Пяе знадворку ветрам сьнег,
Нібы спраўляючы хаўтуры,
Нібы спыняючы свой бег.
Як толькі дзіка раз, другі
Завыюць холадам сьнягі, --
Тады рукамі сьцісну скроні
І доўга, доўга песьню чую
Пра родны край, пра
зямлю тую,
Якая з ветрам
штось гамоніць.

### X X X I V

Само жыцьцё пайшло у хаце
Ізноў бядой мінулых год.
Сьцяпан казьне
падаткі плаціць
За ураджай і недарод.
Вось так ярмо сваё нясе,
Сяк-так існуе пакрысе:
З вясны чакае ураджаю,
Працуе зраньня да паўночы.
Няхай яму і цяжка крочыць,
Затое хлеб у хаце маюць.

### X X X V

І вось Сьцяпанава багацьце:
Гумно, хлявы, ля хаты клець,
Старая печ у нізкай хаце,
Дзьве лавы -- людзям пасядзець.
Вісяць у куце абразы.
Іх гаспадыня два разы
За год рупліва прыбірае:
Адзін раз -- гэта пад Каляды,
Калі прыходам сьвята рады,
К Вялікадню -- чарга другая.

### X X X V I

Жыве Сьцяпан, як кожны
ў вёсцы:
Вясною сее, летам жне
На сваёй вузенькай палосцы.
Ці добра жыць было, ці не,
А разважаў ён сабе так:
"Я не багаты, не бядняк,
Ёсьць на стале кавалак хлеба,
Таксама к хлебу трохі маю,
Яшчэ з сям'ёй не галадаю,
Дык што жывому болей трэба!"

### X X X V I I

Таго, што меў, яму хапала.
На шмат багацьця, на зямлю
Ня меў ён прагнасьці Міхала.
Ня раз казаў ён:
"Ня люблю
Суседзяў я сваіх скупых.
Як пагляджу на працу іх,
Дык ня прыходжу
да спакою.
І дзень і ноч яны на працы,
Такія выжмінды і цацы,
З вялікай прагнаю душою.

### X X X V I I I

Нашто ў жыцьці
такая праца,
Нашто дарэмна працаваць,
Каб хлеба з'есьці
ўзяць баяцца,
Каб выпіць чарку шкадаваць!
Глядзіш -- нядрэннае сяло,
А колькі хлеба там было,
А колькі ў іх дабра прапала!!
Сабе шкадуюць. Хай
у склепе
Яго багацьце згіне лепей,
А прагнаму
заўсёды мала".

### X X X I X

Адзін увесь свой век зьбірае,
Ды раптам -- на табе! --
памёр...
Тады й багацьце пакідае.
Другі, як той
сьмярдзючы тхор,
Здабытак свой ён завалок
У цёмны склеп і ў вузялок.
А на плячах сам бесканечна
Усё жыцьцё да самай сьмерці
З дзесятай латкай
будзе церці,
Каб толькі жаць і
прагнуць вечна.

### X L

Была адна ў Сьцяпана мэта --

Лягчэй пражыць жывому
век,
Хоць цяжкай працаю за гэта
Заплаціць часам чалавек.
Парадак ён нядрэнны меў,
Бо так рупліва яго хлеў
Жывёльнаму прыбраны статку,
Што аж далёкія суседзі
Ня раз казалі пры бяседзе
Аб яго дбаньні і парадку.

### X L I

Ён не складаў свае чырвонцы,
Каб праўнукі жылі на іх.
Ён лепей купіць хустку жонцы,
Ці пару ботаў дарагіх;
Але каб золата і медзь
Яму маглі ў труне зьвінець --
Лічыў нікчэмнейшымі мары;
Лічыў, што трэба
жыць жывому,
Быць акуратным каля дому
І акуратна гаспадарыць.

### X L I I

На існасьць дзён глядзеў
няхмура,
А мудрых ведаць ён ня мог,
Ды так ішоў да Эпікура
Зігзагамі чужых дарог.
Успамінаў нярэдка ён
Жыцьцё мінулае, як сон,
Як дні пякельныя даліся,
Як ён гаіў у сэрцы раны
Гарэлкаю, як часта п'яны
Глядзеў у кубак Дыяніса.

### X L I I I

На вопыце жыцьця зямнога,
Сярод нікчэмнасьці людзей
Адмольваўся часамі многа
Ад сваіх мараў і надзей.
Сьцяпан забыўся ўжо даўно
І на гарэлку й на віно.
Чаго ніколі ён ня кінуў,
Аб чым ён толькі сам
з сабою
Прыходзіў думкай
да спакою,
Дык гэта -- даць навуку сыну.

### X L I V

Ці ходзіць з плугам
ён у полі,
Ці йдзе з касой на сенажаць,
Заўсёды думку мімаволі
Не пакідаў ён паўтараць:
"Людзей зямны кароткі век,
А без навукі чалавек,
Хоць вочы мае, а нічога
Ня бачыць сам перад сабою;
Пакрыта вечнай пеляною
Жыцьця нябачная дарога.

### X L V

Вось я іду, як падарожны,
Што паміраць яму пара,
А кпіны ладзіць хоча кожны
Над старцам без павадыра.
Жывём на сьвеце абы як,
Падобны нам адзін чарвяк.
Як ён, мы сілаю сваёю,
Без адпачынку дні і ночы
Сырую зямлю цяжка точым,
Каб стацца зноў
навек зямлёю".

### X L V I

Сьцяпан увечары, бывала,
Калі зьбярэцца дзетвара,
Любіў чытаць
малым Купала
І расказаць пра песьняра,
Пра дзён мінулых курганы,
Як доўга польскія паны
За нашу працу
баль спраўлялі.
І як яны за праўду, дзеда,
Каб і народ аб тым ня ведаў,
Жывога ў зямлю закапалі.

---

Працяг. Пачатак у № 13.

## ПРЭМ'ЕРЫ





У Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы пастаўлена п'еса Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча "Ідылія". Больш за сто сорак гадоў назад адбылася ў Мінску прэм'ера гэтай камедыі-оперы на беларускай мове ў пастаноўцы самога аўтара. Традыцыйны жанр еўрапейскай літаратуры таго часу -- пастараль, дзякуючы таленту пісьменніка, знайшоў месца на беларускай сцэне.

Зварот праслаўленага тэатра да нацыянальнай класікі -- гэта даніна павагі да незаслужана забытай доўгія гады на нашай сцэне спадчыны В. Дуніна-Марцінкевіча.

Паставіў спектакль рэжысёр Мікалай Пінігін. Дух эпохі, які ўдалося перадаць пастаноўшчыкам, арганічна дапаўняе музыка С. Манюшкі і М. Агінскага.

НА ЗДЫМКАХ: сцэна са спектакля; у ролі Навума Прыгаворкі -- народны артыст Беларусі Генадзь АЎСЯННІКАЎ.

Фота У. ВІТЧАНКІ.

# ЦІ ПЕРАЖЫВЕ КІНЕМАТОГРАФ 2000-ны ГОД?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Таму, можа, у гэты перыяд у маёй працы нешта з экранізацый і не ўлічана. Аднак на 90 працэнтаў я гарантую дакладнасць сабраных мною звестак.

**-- Цяжка было выдаць кнігу ў наш час?**

-- Нялёгка. Мне дапамаглі зрабіць гэта, апрача рэктара БДУ і выдавецтва "Універсітэцкае", студыя "Беларусьфільм" і акцыянернае таварыства кампаніі "ВІТТ". Я ім вельмі ўдзячная. На жаль, кніга стратная. Мне сорамна, што яна дрэнна аформлена. Аднак, будзем спадзявацца, гэта не спыніць тых, хто цікавіцца беларускім кінематографам.

**-- Ефрасіння Леанідаўна, ці характэрна, на вашу думку, такая колькасць экранізацый, як у беларускім кіно, для іншых кінематографаў былога СССР?**

-- Літаратура здаўна з'яўлялася асновай кінематографа. Калі б яна не падзялілася з ім сваімі набыткамі, кіно не адбылося б як мастацтва. Яно было б бяднейшым, больш тэхнічным, трукацкім. Калі ж кінематограф імкнуўся быць вобразным псіхалагічным мастацтвам, ён не мог абысціся без сур'ёзнай літаратуры. І гэта тычыцца кіно ўсіх краін.

**-- Якія тэндэнцыі ў развіцці кінамастацтва вы бачыце сёння?**

-- Паўсюль яно па сваім абліччы трохі адрозніваецца ад таго, якім было раней. Яго больш цікавіць жанравы аспект, праяўленне незвычайных тэхнічных сродкаў. Кінематограф амаль не бярэ на сябе абавязак даследаваць глыбінныя сацыяльныя задачы. Ёсць тэорыі, якія даказваюць, што наогул нельга патрабаваць ад мастацтва даследавання жыцця. Хай, маўляў, мастацтва фіксуе тое, што адбываецца, або стварае камфорт для адпачынку. Мне здаецца, што гэта ўсё ж такі прыніжэнне магчымасцяў мастацтва. Многія зараз задаюцца пытаннем, ці зможа кінематограф перажыць 2000-ны год. Спадзяюся, што пераЖыве. Праўда, у яго, як і ў мастацтве наогул, няма сёння той кропкі, з якой можна было б па-новаму разглядаць чалавека. Пакуль вывучаюцца яго цэнявыя бакі, недасканаласць. А людзі ж розныя. Мастацтва як-

*СПАДЗЯЁМСЯ НА ВОДГУК*

# УЛАДЗІМІР СЛУЧАНСКІ – БЕЛАРУСКІ ПІСЬМЕННІК З АЎСТРАЛІІ

Нядаўна зусім выпадкова мне трапіла ў рукі кніга з незвычайнай назвай "Драбы". На чырвонай вокладцы выява Пагоні і адзнака выдавецтва -- "Мельбурн, 1958". Аўтарскае вызначэнне гэтага мастацкага твора -- гістарычная аповесць, аднак яе і па змястоўнасці, і па даволі значных памерах можна з поўнай падставай лічыць раманам. Імя аўтара -- Уладзімір Случанскі --амаль невядомае на Беларусі, хаця можна толькі здагадвацца, колькі ён паспеў пасля 1958 года напісаць твораў, якіх мы яшчэ не прачыталі. Аказваецца, акрамя знакамітага беларускага паэта Алеся Салаўя, вымушанага эмігрыраваць у Аўстралію (дзе ён і памёр у 1978 годзе), на далёкім кантыненце (вось ужо сапраўды, куды ні трапяць беларусы!) жыве яшчэ адзін беларускі пісьменнік, піша гістарычныя раманы на жывой, прыгожай, чыстай беларускай мове і настолькі дасведчаны ў нашай мінуўшчыне, што раман прачытваецца на адным дыханні, захапляе не толькі лёгкасцю стылю, займальнасцю (у лепшым сэнсе гэтага слова), але і ўзбагачае цікавымі і маладомымі звесткамі з далёкай гісторыі Беларусі. Пісьменнік раскрывае эпоху вялікага князя Вітаўта Кейстутавіча Гаспадара Літоўскага, той перыяд, калі ён са сваім войскам выратаваў краіны Заходняй Еўропы ад татарскага нашэсця, нягледзячы на тое, што пацярпеў паражэнне на рацэ Ворскле. Гэта адзіны ў сучаснай беларускай літаратуры раман на такую тэму, ніхто яшчэ (да У. Случанскага) з беларускіх пісьменнікаў не звяртаўся да яе мастацкага асэнсавання.

Першае знаёмства з адным з галоўных герояў рамана ваяводам Фёдарам з Грозава якраз і адбываецца ў той цяжкі, трагічны момант, калі загінула шмат беларускіх воінаў у бітве з татарамі: "...Няраз хадзіў Ваявода з Дружынай Вялікага Князя і на крыжакоў, і на маскалёў, і на татараў, але гэтакага, што цяпер здарылася, не бачыў ніколі. Будзе ён памятаць Ворсклу аж да скanання: разбілі татары Князеву Дружыну. Шмат там палегла Драбаў слаўных, Рыцараў чужаземных і Князёў Літоўскіх, але яшчэ больш нехрыстаў татарскіх. Ад іх крыві аж вада ў Ворскле чырвонаю зрабілася. Аднак не надарма змагаліся Дружыньнікі Літоўскія, не надарма паляглі яны на полі сечы: няхай і перамаглі там бусурманы, але не адважыліся ўсунуцца далей на Землі Княства Літоўскага. Шмат каштавала Хану гэтая сутычка з Вітаўтам. Хан абяссілеў і не адважыўся ісьці далей, толькі некаторыя военачальнікі татарскія з невялікімі аддзеламі ўрываліся на землі літоўскія, несучы з сабой сьмерць, агонь і гвалт... -- Шмат чаго яшчэ перадумаў Ваявода, але нарэшце страта крыві і сілаў зрабілі сваё, заснуў ён, няведаючы, што ад самага пачатку яго пешай вандроўкі за ім сочаць некалькі пар пільных вачэй..."

Раман складаецца з 30 частак, у якіх раскрываецца не толькі знешняя палітыка Вітаўта, але глыбока і ўсебакова паказана жыццё тагачаснай Беларусі, усіх яе слаёў. Нездарма аўтар даў свайму твору назву "Драбы" -- так раней называліся Рыцары Пагоні, якімі маглі стаць не толькі маладыя воіны магнацкіх родаў, але і звычайныя, простыя людзі, калі яны вызначаліся асабістай мужнасцю, сумленнасцю, любоўю і аддансцю Бацькаўшчыне. Расказваючы, як шараговы воін з княжацкай дружыны Васіль з Капыля, адважна змагаючыся з крыжакамі, татарамі, здабываў сабе залаты Рыцарскі пас і шпоры, малюючы ўзаемаадносіны ваяводы Фёдара, самога князя Вітаўта з дружыннікамі, простым насельніцтвам, якое пакутавала ад пастаянных набегаў блізкіх і далёкіх суседзяў, пісьменнік тым самым раскрываў дэмакратычнасць дзяржаўнага ладу, які існаваў у тагачаснай Літве і якога не было ні на Захадзе, ні ў Маскоўшчыне. Пісьменніку ўдалося праз жыццё, побыт, змаганне, узаемаадносіны сваіх герояў паказаць, як дзейнічалі асноўныя законы, якія былі народныя суды, дзе судзіў народ і кожны падпарадкоўваўся выраку гэтага суда, якая існавала цярпімасць веравызнання і наколькі дружна ўжываліся людзі розных нацыянальнасцяў, станавіліся паўнапраўнымі літоўскімі грамадзянамі. Многія старонкі рамана, дзе раскрываюцца адносіны паміж Літвой, Польшчай, Нямеччынай і Маскоўскай дзяржавамі, гавораць пра грунтоўнае веданне аўтарам гістарычных рэалій таго часу, хаця беларус, паляк ці расіец па-рознаму могуць паставіцца да тых або іншых падзей ці асоб. Чытаючы раздзелы, у якіх аўтар расказвае пра сярэднявечны Кракаў -- тагачасную польскую сталіцу, інтрыгі польскага двара, пра тое, як польскія рыцары і ксяндзы выступалі супраць праваслаўных беларусаў (сцэны забойства сям'і паромшчыка Вадзяніка на Прыпяці, вераломнага знішчэння пасольскай дружыны ваяводы Фёдара, паўстання беларускіх сялян супраць уладарства палякаў і інш.), адчуваеш, што гэта не толькі фантазія і домыслы аўтара, а цяжкая, горкая праўда, перажытая нашымі продкамі. І, нягледзячы на ўсе гэтыя цяжкасці, народ жыў, працаваў, абараняў свае інтарэсы. На багатую, не знішчаную татарамі Літву, хоць і пазіралі з прыхаванай зайздрасцю Польшча і Маскоўшчына, аднак не асмельваліся адкрыта выступаць супраць моцнай, здольнай даць адпор любому захопніку дзяржавы.

І ўсё ж у цэнтры ўвагі аўтара не толькі гэтыя дзяржаўныя, палітычныя праблемы, хоць яны і не абыходзяць жыццё кожнай дзейнай асобы. Найбольш пісьменніку хацелася паказаць, якімі прыгожымі знешне і ўнутрана былі ліцвіны, якой высокай самасвядомасцю, чалавечай годнасцю былі надзелены, пачынаючы ад вялікага князя Вітаўта, ягонай сястры-прыгажуні Рынгайлы, ваяводы Фёдара Грозаўскага, яго каханай Марылі, слуцкага ўладара да звычайных дружыннікаў, сялян, слуцкіх, полацкіх, нясвіжскіх гараджан і рамеснікаў.

З цікавасцю чытаюцца раздзелы пра старажытныя Слуцак і Полацак: "Напружана маўчала замчышча. Сівыя муры вежаў і сьценаў з пагрозай паглядаюць навокал. Прадзамкавыя рвы напоўнены вадой, масты падняты, са сьцен не зыходзіць варта. Дзесяткі вялікіх кашоў напоўнены ядавітымі гадзюкамі, каб пры першай пагрозе іх выпусьціць у рвы, гэта трохі страшней, чым пасткі і стрэлы. Удзельны князь Слуцкі, з слаўнага роду Алелькавічаў, -- у недалёкім мінулым вялікі рубака і нястомны наезднік, а зараз ужо стары і аслабелы, сівы як лунь, рашыў бараніць свой замак, на той выпадак, калі Вялікі Князь будзе разбіты татарамі. Князь чуў, што татараў ідзе нязлічоная колькасьць, што іх дасюль нязлолеў затрымаць ніхто. Але ўсё роўна даў загад падрыхтавацца да абароны, а аб скланеньні галавы перад ханам не хацеў і слухаць.

У невялікім Слуцку, абнесеным абароннымі валамі, жыццё замерла. Толькі ў кузьнях стук малатоў ды лязгат жалеза -- народ рыхтуецца сустракаць няпрошаных гасцей. Усё мужчынскае насельніцтва не выходзіць з хаты без мяча, пернача ці баявой сякіры... Хутка ўвесь замак і горад абляцела вестка: "Вялікі Князь даў бой татарам на рацэ Ворскле. Амаль уся Вялікакняжая Дружына палегла. Рэшткі прабіваюцца ў Полацак і заклікаюць народ па ўсёй Літве ў свае харугвы. Ганцы з гэтым клічам раз'ехаліся па ўсіх Княствах і Землях літоўскіх. Але і татары пасля гэтага пабоішча не адважваюцца ісьці далей".

У цэрквах загудзелі званы, захваляваўся народ, хутчэй загрымелі малаты ў кузьнях. Небяспека адкрытая рэзала ў сэрца. "Што будзе далей? Што будзе?.." -- шаптаў кожны і з надзеяй зварочваў пагляд у бок замкавых вежаў.

Замак маўчаў. Сівы і грозны, ён ашчаціўся зубцамі вежаў і сьцен..."

І вось ужо аўтар вядзе чытача ў святую полацкую Сафію: "Паважна і ўрачыста ўдарылі званы Сьвятой Сафіі, і тысячагалосым пераразвонам адгукнуліся навакольныя цэрквы і манастыры.

Натоўпамі паваліў народ на паніхіду па загінуўшых на Ворскле, заказаную самім Вялікім Гаспадаром Літвы. Тысячы палачан і гасьцей, бесперапынным патокам уліваліся ў расчыненыя насцеж дзверы Храмаў Гасподніх. У гэтым натоўпе ўсё перамяшалася: і шэрая даматканая сьвітка селяніна, і бліскучы панцыр Драба, і скураны фартух рамесніка, і яркі плашч шляхціца. Побач з чорнай расай манаха паблісквае кальчуга воя, аксамітны камзол купца, каляровы кажушок жанчыны, пышны ўбор чужаземца...

Нарэшце, пад аглушальныя крыкі прывітаньняў, з невялікай світай паказаўся вярхом на белым кані Вялікі Князь Літоўскі Вітаўт Кейстутавіч. Нягледзячы на жалобны дзень, Вітаўт не мог стрымаць радасьці, распіраўшай яго, пры выглядзе гэтага заўсёды суровага і стрыманага народу, у такім радасным і буйным выяўленьні вернасьці, даверу і каханьня да свайго Гаспадара, і ён прыветна ўсміхаўся...

Праз адчыненыя дзверы Сабору данёсься голас мітрапаліта:

-- Благаславен Бог наш...

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

---

раз дапамагала ім устаць на ногі, калі яны стаялі на каленях, дапамагала ачысціцца. Чаму зараз яно адыходзіць ад такіх задач? Айчынны кінематограф, літаратура часта пераймаюць эстэтычныя тэорыі Захаду, якія сябе ўжо перажылі, і там цяпер усё часцей і часцей вяртаюцца да забытага, да рэалізму ў тым ліку. Мастацтва, якое заклапочана жыццёвымі праблемамі, а не касмічнымі войнамі, чалавекам з яго рэальнымі праблемамі, не слабее. Канешне ж, ёсць іншыя плыні, якія маюць права на існаванне. Але ж калі рэалізм вычарпае сябе, то мастацтва не прарвецца на нейкія новыя вышыні, да якіх яму ў будучым стагоддзі абавязкова трэба дайсці. Яно будзе праходзіць той шлях, які ўжо даўно асвоены, толькі на новым тэхнічным узроўні.

-- **Мне здаецца, што дасягненні тэхнікі, якія выкарыстоўваюцца шырока пры стварэнні фільмаў, не ў стане замяніць (а на гэта яны часта прэтэндуюць) таленавітай ігры акцёраў, яркай драматургіі, рэжысуры, духоўнай напоўненасці карціны...**

-- Так, безумоўна. Аднак рэальнасць у тым, што сучаснае кіно робіць стаўку на магчымасці плёнкі, апаратуры. Дынаміка -- вось вызначэнне нашага часу. Галоўная прычына таго, што тэхніка падмяняе псіхалагічны, эстэтычны, маральны ўзровень даследавання чалавека, па-мойму, у крызісе ідэй, памкненняў грамадства. У нас і па ўсім свеце традыцыйныя ідэалы скампраметаваны. Новыя далягляды не адкрываюцца, і духоўнае азарэнне не наведвае людзей. Выкарыстанне тэхнікі запаўняе пустэчу ў думках і пачуццях. Аднак я спадзяюся, што ў кіно ёсць яшчэ што сказаць. Яно зможа, мне здаецца, вярнуцца да сваёй першаснасці, мастацкасці, якой дасягнула ў лепшых сваіх творах розных часоў.

-- **Ефрасіння Леанідаўна, ці можаце вы назваць беларускі кінематограф нацыянальным?**

-- Праблема нацыянальнага ў такім інтэрнацыянальным мастацтве, як кіно, вельмі сур'ёзная і складаная. І яна не даследавана ва ўсёй нашай мастацтвазнаўчай навуцы. Беларускае кіно ўсё ж такі адчужанае ад нацыянальнай культуры.

-- **Якія, на ваш погляд, асноўныя прычыны гэтага?**

-- Беларускі кінематограф пачынаўся, калі фабрыка будавалася ў Ленінградзе. Там жа знаходзілі і кадры. Пра выхаванне сваіх не дужа клапаціліся. Часта на беларускую кінастудыю прыязджалі людзі, якія належалі да розных культур. Некаторыя шукалі магчымасць зняць у Беларусі 1--2 карціны і ад'язджалі.

Аднак сказаць, што беларускае кіно зусім не стасуецца з беларускай культурай, азначае прынізіць яго значэнне. У лепшых творах беларускага кіно ёсць нацыянальная ідэя. Я зусім не падзяляю думку людзей, якія гавораць, што ў нас няма нацыянальнага кінематографа, таму ён нам не патрэбен наогул. Не можа дапусціць рэспубліка, якая паважае сябе, каб у яе не было такога сучаснага дынамічнага мастацтва, як кіно. Іншая справа, што яго трэба цясней звязваць з традыцыямі нацыянальнай культуры. І не спрошчваць пры гэтым разуменне нацыянальнага. Гэта не адна толькі мова, хоць і яна таксама. Сапраўды, на Беларусьфільме звычайна здымаліся фільмы на рускай мове або ў двух варыянтах. Першы варыянт -- на рускай, другі -- на беларускай. Калі б нашы кінематаграфісты рабілі фільмы толькі на беларускай мове, іх не ўбачылі б нідзе, акрамя рэспублікі. Для пракату гэта занадта малая прастора.

Акрамя мовы, нацыянальнае — гэта тэма, характары, асаблівасці светаадчування. Я перакананая ў тым, што кінематограф у любой краіне не можа абмежавацца толькі нацыянальным. Але ж такія фільмы павінны быць яго асновай.

-- **Акрамя камерцыйных стужак у апошні час пачалі выходзіць фільмы як ігравыя, так і дакументальныя, якія закранаюць праблемы беларускай культуры, гісторыі. Ці задавальняе вас іх узровень?**

-- Мяне радуе з'яўленне цэлага шэрагу дакументальных карцін, якія распавядаюць пра пласты беларускай гісторыі, культуры, якія дагэтуль былі невядомымі. Сярод ігравых фільмаў менш адкрыццяў. Напрыклад, стужка, знятая па п'есе Я. Купалы "Тутэйшыя" рэжысёрам Валерыем Панамаровым, здалася мне толькі данінай нацыянальнай тэматыцы. Фільм гэты — прыклад спрашчэння нацыянальнага пытання.

-- **Вам не здаецца, што такія фільмы разам з непрафесійна агучанымі мультфільмамі, іншымі слабымі мастацкімі стужкамі шкодзяць прапагандзе беларускай мовы, культуры?**

-- Вядома ж, не дапамагаюць. Узровень, на якім здымаюцца, агучваюцца некаторыя фільмы, зусім не стасуецца з мастацтвам. Сёння галоўнае -- дастаць грошы, якіх не хапае. Пры мінімальных сродках цяжка патрабаваць ад рэжысёра паразздымак, перазапісу. І нават у лепшай эканамічнай сітуацыі мастацкі ўзровень твораў не заўсёды дасягаецца.

Творчасць -- справа індывідуальная. Але ж стварыць умовы для яе -- справа не толькі мастака, але і грамадства. Яно не павінна мірыцца з тым, каб халтура падмяняла творчасць.

-- **Ефрасіння Леанідаўна, як жыве кінастудыя "Беларусьфільм" сёння? Ці здымаюцца там цяпер фільмы-экранізацыі беларускай літаратуры?**

-- Цяжка жыве: база не абнаўляецца, нестае грошай на ўтрыманне кваліфікаваных спецыялістаў, таму павільёны і тэхніка няшчадна эксплуатуюцца арандатарамі. Але нешта ствараецца і сваё, у тым ліку і на аснове твораў беларускай літаратуры. Летась адбыліся прэм'еры фільмаў В. Турава "Чорны бусел" паводле аповесці В. Казько "Выратуй і памілуй нас, чорны бусел", В. Нікіфарава "Душа мая, Марыя" па матывах п'есы Д. Міхлеева "І трэці анёл абвясціў". Да літаратуры -- беларускай, рускай і іншых краін -- звяртаюцца навучэнцы кінафакультэта Акадэміі мастацтваў (рэжысёрская група пад кіраўніцтвам В. Турава). Беларускія пісьменнікі (Р. Барадулін, В. Казько і інш.) прымаюць удзел у стварэнні дакументальных стужак аб дзеячах беларускай культуры. Нядаўна я паглядзела дылогію пра філосафа і асветніка сярэднявечча Казіміра Лышчынскага "І аз воздам"... Разам з беларускім драматургам В. Бутрамеевым яе пачынаў (пад назвай "Д'яблу і Богу") вядомы рэжысёр нашага кіно Барыс Сцяпанаў (цяпер ужо нябожчык), а завяршаць давялося Б. Шадурскаму і М. Касымавай. Ведаю, што І. Дабралюбаў экранізуе новыя апавяданні І. Шамякіна, В. Тураў таксама шукае падмурак новай пастаноўкі ў творах беларускай літаратуры. Так што сувязі кінематаграфістаў і літаратараў працягваюцца. Трывога за іншае: ці патрапяць іх творы ў шырокі пракат. Там жа пануе прадукцыя іншага гатунку -- амерыканскага, з жахамі і суперменамі, грубым натуралізмам і іншымі шок-прынанкамі. Пракатчыкі так прызвычаіліся на іх зарабляць грошы на "выжыванне", што айчынную ціхамірную прадукцыю не дужа паважаюць. Ды і каштуе яна на кінарынку болей, чым заморская... Вось такая сітуацыя ў беларускім кінематографе, якому сёлета ў снежні споўніцца 70 год.

**Алена СПАСЮК.**

## НАВІНКІ АД "МАСТРЫ"



Прыгажосць колеравай гамы, вытанчанасць вышыўкі, тонкі густ вызначаюць вырабы акцыянернага таварыства "Мінская фабрыка мастацкіх вырабаў "Мастра". Не выпадкова прадукцыя прадпрыемства з поспехам рэалізуецца ў многіх краінах свету.

Паступае яна і на рэспубліканскі рынак. Гэта элегантныя касцюмы, расшытыя блузы, сукенкі. У многіх з іх традыцыі народнай творчасці арганічна спалучаюцца з сучасным дызайнам. Мастакі і мадэльеры фірмы пастаянна абнаўляюць і паляпшаюць асартымент.

НА ЗДЫМКАХ: Алена ГРАФАВА і Любоў УШАКОВА дэманструюць прадукцыю "Мастры"; такія хусткі ручнога роспісу карыстаюцца вялікім попытам у пакупнікоў.

Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ.



# УЛАДЗІМІР СЛУЧАНСКІ – БЕЛАРУСКІ ПІСЬМЕННІК З АЎСТРАЛІІ

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

Натоўп заварушыўся, і сотні свечак заіскрыліся на марозным паветры...

Баярын Лука, хаця і трымаў свечку, аднак думкамі быў далёка ад паніхіды. Яго турбавала тая пашана і любоў, якой быў акружаны Вялікі Князь Вітаўт з боку сваіх падданых. А вялікая колькасць чужаземцаў і іх пашана да Гаспадара зусім палохала яго, бо як мог ён пры гэтакіх абставінах пераконваць Вітаўта аб патрэбе саюзу з дзікай Масквой, хоць і адзінавернай. Глыбока задумаўшыся, баярын Лука прастаяў усю паніхіду і ачнуўся толькі тады, калі натоўп вернікаў апусціўся на калені. Усхліпванні і плач патанулі ў стройным спеве хору: "Вечная памяць..." (Прашу прабачэння за доўгія цытаты. Але мне хацелася, каб чытач адчуў водыр і прыгажосць беларускай мовы, якая гучыць ва ўсіх кутках свету).

Аддаючы належную ўвагу дзеянням вярхоўнай улады, аўтар усё ж найбольш засяроджваецца на побыце, характарах, учынках простых людзей. Раздзелы, прысвечаныя паўстанню "сычанят" (кіраўніком іх быў Якуб Вадзянік, па прозвішчу Сыч) пацвярджаюць, з якіх далёкіх часоў у беларускім народзе жыве ідэя незалежнасці, імкненне адстаяць і абараніць яе ад усялякіх ворагаў і прыгнятальнікаў. Апяваючы мінулае беларускай зямлі, пісьменнік адкрывае і з незвычайным замілаваннем маляваў простых людзей як вялікіх патрыётаў, мудрых правіцеляў, цудоўную прыроду роднага краю, незабыўныя падзеі ў гісторыі нашай Бацькаўшчыны, калі яна была роўнай і слаўнай сярод магутных дзяржаў Еўропы. Дзівуешся толькі здзіўляецца, як ва ўмовах эміграцыйнага жыцця, знаходзячыся так далёка ад Радзімы, празаіку ўдалося напісаць твор, які нагадаў беларусам праўдзівыя старонкі іх слаўнай гісторыі. Аднак здзіўляе і тое, што раман быў напісаны зусім маладым аўтарам, таму адчуваюцца ў ім, вядома ж, і пэўныя недахопы. У невялічкай прадмове да рамана сказана, што гэта першая гістарычная кніга У. Случанскага.

Мне б хацелася праз газету звярнуцца да аўтара з просьбай расказаць пра сябе, даслаць на Бацькаўшчыну ўсе свае творы, якія былі напісаны пасля "Драбаў", каб мы маглі пазнаёміцца больш грунтоўна з творчасцю яшчэ аднаго беларускага пісьменніка-эмігранта. У прадмове да рамана няма амаль ніякіх звестак пра аўтара, сказана толькі, што пачынаў ён з апавяданняў ("Праз агонь", "Пад сцягам бел-чырвона-белым", "Не прапусцім", "Пётр Фёдаравіч не верыць" -- сучасная тэматыка). Псеўданім "Случанскі" гаворыць сам за сябе: вядома, што пісьменнік нарадзіўся ў Слуцку і з'яўляецца "гарачым песняром ухаханай Бацькаўшчыны -- Беларусі і беларускага народу". Цяпер я ведаю таксама, што Уладзімір Случанскі -- адзін з братоў Шнэкаў, якія жывуць у Аўстраліі. Яны былі дэлегатамі Першага з'езда беларусаў свету, пасля доўгага перапынку пабывалі на Бацькаўшчыне. Алег Шнэк быў абраны сябрам Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету, а Уладзімір Шнэк-Случанскі -- вядомы на эміграцыі беларускі пісьменнік, мастак, імя якога ў былой савецкай Беларусі забаронена было ведаць.

Улетку 1993 года падчас з'езда беларусаў браты па запрашэнню гарадской Рады ТБМ пабывалі ў Лідзе, і мясцовая газета ("Голас з Ліды"), змясціўшы невялікую інфармацыю аб гэтай падзеі, надрукавала ўрывак з паэмы Уладзіміра Случанскага "Аброк Кіеву", якая была выдадзена ў Аўстраліі, але на Беларусі, як і наогул усе творы пісьменніка, не друкавалася. Мне, як даследчыку літаратуры, было вельмі шкада, што па ўласнай недасведчанасці не адбылося ў мяне асабістага знаёмства з Уладзімірам Случанскім падчас з'езда беларусаў, я проста не ведала, што У. Шнэк -- гэта той самы Уладзімір Случанскі, раман якога я прачытала і вельмі хацела прачытаць іншыя яго творы. Не можа не адгукнуцца беларускае сэрца на словы празаіка, паэта, які, нягледзячы на ростань даўжынёю ў цэлае жыццё, любіць край бацькоў і дзядоў, "край рэк, садоў, азёр і пушчаў, духмяны водарам ліповым. Край беларускі васільковы" і які верыць, што "пад сцягам слаўнае Пагоні мы вызвалім наш край з няволі...", бо "мы люд Крывіцкі непакорны! Вялікі, слаўны і цудоўны ў навуках, песьнях і мастацтве, у працавітасці і ў ваяцтве..."

Спадзяюся, што кнігі Уладзіміра Случанскага вернуцца з далёкай Аўстраліі на Бацькаўшчыну і знойдуць тут свайго зацікаўленага, удзячнага чытача, тым больш, што яго імя ўводзіцца зараз у 6-томны бібліяграфічны слоўнік "Беларускія пісьменнікі" (выданне Інстытута літаратуры Акадэміі навук Беларусі), а мы амаль нічога не ведаем пра яго жыццё і творчасць.

Лідзія САВІК.

### НАВІНЫ ФІЛАТЭЛІІ

# ПЕРШАЯ ПАШТОВАЯ КАРТКА

Вялікай папулярнасцю сярод філатэлістаў карыстаецца калекцыяніраванне паштовых картак з арыгінальнымі маркамі. Такія карткі даўно выпускаюць паштовыя ведамствы многіх краін свету. Яны цікавыя тым, што малюнак на іх і марка звязаны адной тэмай, дапаўняюць адзін адну. Першую такую картку выдала і Міністэрства сувязі і інфарматыкі РБ. Яна зроблена па просьбе жыхароў Гомеля (і вядома -- філатэлістаў) да 50-годдзя з дня вызвалення горада ад фашысцкіх захопнікаў. На малюнку карткі --танк-помнік, устаноўлены ў горадзе ў гонар вызвалення. Пад малюнкам -- юбілейная дата і подпіс, гвардзейская стужка. На арыгінальнай марцы карткі -- герб горада -- рысь, што ляжыць, і дата "1142" -- першая летапісная вестка аб Гомелі, які ўваходзіў тады ў Чарнігаўскае княства. На малюнку спецыяльнага штэмпеля, што выкарыстоўваўся на паштамце Гомеля ў юбілейны дзень вызвалення горада, той жа малюнак -- адлюстраванне помніка-танка. Цікава адзначыць, што ў афармленні паштовай карткі і штэмпеля прымалі ўдзел філатэлісты горада. Першая картка беларускай пошты пакладзена ў альбомы філатэлістаў. Праўда, філатэлісты Беларусі маюць прэтэнзіі да яе мастацкага афармлення:не вельмі цікавая марка, яна не завершана ў мастацкім афармленні, то ж самае можна сказаць і аб спецыяльным штэмпелі.

На чарзе -- наступныя выпускі такіх картак, прысвечаных розным падзеям у жыцці нашай рэспублікі. Будзем спадзявацца, што яны будуць лепшымі і больш арыгінальнымі за першыя.

Леў КОЛАСАЎ.




Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 461. Падпісана да друку 1. 4.1994 г.